


## У наступным нумары:

Эўрапейскі моладзевы парлямэнт
Нашыя людзі на "Мотаршоў"
"Вольныя танцы: alternatyva_by"

# СТУДЭНЦКАЯ




4
КРАСАВІК

# ДУМКА 2001



## У гэтым нумары:

**Эўрапейскі Гуманітарны Ўнівэрсытэт**

**Эканоміка:**
Прынцып абыякавасьці

**Каханьне ў чатырох гіпастазіях**

# Зьмест



# Рэдактарскі ліст




Студэнцкая думка
№ 4 (65) 2001 г.

Заснавальнік:
грамадзкае аб'яднаньне "Задзіночаньне беларускіх студэнтаў"

Выдавец:
рэдакцыя "Студэнцкай думкі"

Рэдактар
Ірына Віданава

Намесьнік рэдактара
Мікола Шакель

Стыль і карэктура
Алена Беляеўская

Дызайн, вёрстка й афармленьне
Аляксандар Мазанаў



**Адрэса рэдакцыі:** вул. Даращэвіча, 4-2, 220013, г. Менск
**Тэлефон рэдакцыі:**
(017) 213-22-19
**Пэйджэр (для рэклямадаўцаў):**
(017) 285-00-00, абанэнт 10231
**Адрэса для допісаў:** 220030, г. Менск-30, п/с 90
**Адрэса ў Інтэрнэце:** www.studumka.com
**E-mail:** dumka@bsa.org.by



Часопіс выходзіць з 1924 г. Зарэгістраваны ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь. Пасьведчаньне № 1296 ад 13.04.1999 г.





*Надрукавана ў УП "Чырвоная Зорка", 220073, г. Менск, 1-ы Загарадны зав., 3. Ліцэнзія ЛП № 431 ад 01.01.2001 г.*
*Фармат 60х84 1/8*
*Папера афсэтная 65 г/м²*
*Падпісана ў друк* 21.04.01
*Замова №* 1948
*Наклад 2000 асобнікаў*
*Кошт свабодны*


Забудзьцеся на неадкладныя справы, не сьпяшайцеся ў бібліятэку, закіньце на колькі гадзінаў нудныя рэфэраты й разумныя курсавыя. У вас у руках "Студэнцкая думка" – самая лепшая думка за ўвесь месяц! Прывітаньне ўсім!

Пакінем убаку традыцыйныя размовы пра надвор'е, тым больш што наракаць на яго цяпер не даводзіцца (прасачыце, каб за вамі ніхто не стаяў, і ціхенька паплюйце праз левае плячо). Пачнем жа зь ня меней традыцыйных віншаваньняў. Усіх – зь Вялікаднём! Хрыстос уваскрос! І няхай разам з гэтай прыемнай навіной у ваш дом увойдуць мір і спакой.

А яшчэ з красавіцкіх сьвятаў адразу згадваецца Дзень Дурня, які міжнародная супольнасьць (каб, барані Божа, не пакрыўдзіць сяго-таго з высокапастаўленых асобаў) дамовілася называць Сьвятам Гумару. Спадзяемся, з нашых чытачоў ніхто 1 красавіка не адзначаў сваё прафэсійнае сьвята, а навіншавацца як сьлед вы ўжо пасьпелі й бяз нас.

Але каго ўсё-ткі варта было б павіншаваць, дык гэта таго Вялікага й Усеабдымнага Дурня, які нарэшце атрымае палёгку: нашае студэнцтва будзе змушанае кінуць яго валяць і заняцца справамі. Так-так, хутка сэсія. Да яе засталіся лічаныя тыдні. Таму адрывайцеся ўжо напоўніцу. І "Студэнцкая думка" дапаможа вам у гэтай высакароднай справе.

Ну, а наш наступны прыпынак – старонка нумар два!



School Life

Таццяна Сапега

# Эўрапейскі Гуманітарны Ўнівэрсытэт

*У любой краіне сярод шматлікіх ВНУ ёсьць найбольш прэстыжныя. На Беларусі адной з такіх найаўтарытэтнейшых установаў, безумоўна, зьяўляецца Эўрапейскі Гуманітарны Ўнівэрсытэт (ЭГУ). Сама назва гэтае ўстановы ўражвае: адчуваецца прэтэнзія на адукацыю па-эўрапейску. ЭГУ быў заснаваны ў 1992 годзе як недзяржаўная ВНУ і на сёньняшні дзень мае афіцыйна прызнаны дзяржаваю статус унівэрсытэту. ЭГУ падтрымлівае сувязі з замежнымі адукацыйнымі ўстановамі, унівэрсытэтамі Эўропы й Амэрыкі. Штогод тут ладзяцца міжнародныя канфэрэнцыі й сэмінары. Заняткі вядуць беларускія, а таксама замежныя выкладоўцы – з Расеі, Францыі, Нямеччыны, ЗША. Студэнты ЭГУ ўдзельнічаюць у міжнародных праграмах студэнцкіх абменаў, супрацоўнічаюць зь міжнароднымі студэнцкімі арганізацыямі.*

Незвычайнасьць ЭГУ праяўляецца ўжо пры ўваходзе ва ўнівэрсытэт, на першым паверсе. У вочы кідаецца вялікая дошка абвестак. І калі ў БДУ на такой дошцы можна пабачыць пераважна інфармацыю пра розныя адукацыйныя курсы, у “кульку” – афішы культурніцкіх імпрэзаў, то тут –велізарная колькасьць магчымасьцяў праявіць сябе і рэалізаваць свае прафэсійныя веды ва ўсёй Эўропе – інфармацыя пра розныя замежныя адукацыйныя праграмы, стажыроўкі, сэмінары, конкурсы, стыпэндыі...

Такія прапановы не дарма асядаюць у ЭГУ, бо студэнты акрамя сур’ёзнай прафэсійнай падрыхтоўкі атрымліваюць паглыбленую лінгвістычную адукацыю, якая ўключае абавязковае вывучэньне дзьвюх сучасных замежных моваў (ангельская-нямецкая альбо ангельская- француская). Прычым па ўнівэрсытэцкай праграме замежныя мовы вывучаюцца на працягу ўсяго тэрміну навучаньня. Апроч базавых курсаў, студэнты знаёмяцца з асновамі тэорыі й практыкі перакладу, слухаюць спэцкурсы замежных лектараў па абранай спэцыяльнасьці ды агульнагуманітарныя курсы на замежных мовах, знаёмяцца са спраўнаю мовай і прафэсійнай лексыкай на замежных мовах. І гэта пры тым, што ўнівэрсытэт не рыхтуе філёлягаў.

ЭГУ налічвае сем факультэтаў, што вядуць падрыхтоўку юрыстаў, мастацтвазнаўцаў, дызайнэраў, псыхолягаў, філёзафаў, культуролягаў, эканамістаў, тэолягаў і палітолягаў. Унікальным адукацыйным праектам сталася стварэньне ў ЭГУ ў 1993 годзе па ініцыятыве амбасады Францыі ў Беларусі Франка-беларускага факультэту палітычных і адміністрацыйных навук. Факультэт супрацоўнічае са шматлікімі навучальнымі ўстановамі Францыі, якія прызнаюць, што беларускі дыплём ЭГУ зьяўляецца раўназначным дыплёму францускіх інстытутаў палітычных навук. Усе заняткі, акрамя ангельскай мовы, праводзяцца тут на францускай. Факультэт рыхтуе адмыслоўцаў па спэцыяльнасьцях “Паліталёгія” і “Сусьветная эканоміка і міжнародныя эканамічныя адносіны”. Пяцігадовы курс навучаньня на факультэце заканчваецца напісаньнем і абаронаю дыплёмнай працы на францускай мове.

Адбор студэнтаў у ЭГУ праводзіцца даволі сур’ёзна. Пры паступленьні абітурыенты здаюць іспыты па замежнай мове (вусны й пісьмовы), а таксама эсэю на беларускай альбо рускай мове. Прычым эсэя пішацца на тэму, зьвязаную з абранаю спэцыяльнасьцю. Напрыклад, будучым філёзафам могуць прапанаваць паразважаць над праблемаю “Асаблівасьцяў філязофскага мысьленьня”, а будучым мастацтвазнаўцам – прааналізаваць канкрэтны твор мастацтва. Да таго ж, для будучых дызайнэраў ладзіцца конкурс творчых працаў, на факультэце эканомікі – тэст на лёгіка-матэматычныя здольнасьці, на факультэце псыхалёгіі – псыхалягічны тэст. Тыя, хто жадае вучыцца на факультэце тэалёгіі, здаюць біблейскую гісторыю, замежную мову і пішуць тлумачэньне вызначанага Новазапаветнага тэксту.

На мой погляд, такі спосаб адбору студэнтаў, калі прапануецца шэраг іспытаў, набліжаных да будучай спэцыяльнасьці, вельмі эфэктыўны. Такім чынам абіраюцца невыпадковыя і добра падрыхтаваныя маладыя людзі, якія паступаюць мэтанакіравана і ўпэўненыя ў жаданьні навучацца абранай спэцыяльнасьці.

Але ж вытрымаць такія іспыты, думаю, будзе цяжкавата простаму выпускніку сярэдняй школы. У ЭГУ створаны падрыхтоўчы факультэт, што рыхтуе абітурыентаў да паступленьня на ўсе факультэты ўнівэрсытэту. Слухачы, якія скончылі падрыхтоўчыя курсы, залічваюцца па выніках выпускных іспытаў. Гэта добры шанец падвысіць свой адукацыйны ровень, зарыентавацца ў патрабаваньнях да абітурыентаў у дадзенай установе дый, магчыма, паступіць у ЭГУ яшчэ да асноўных уступных іспытаў, пазьбегнуўшы такім чынам сустрэчы са значнаю часткай сваіх канкурэнтаў.

Калі вы будзеце мець шчасьце стаць студэнтам ЭГУ, то ня думайце, што вашыя цяжкасьці разам з уступнымі іспытамі скончыліся. Студэнцкае жыцьцё тут не такое й салодкае. У ЭГУ трэба сапраўды вучыцца, працаваць па прафэсіі “студэнт”. Акрамя дзьвюх асноўных замежных моваў, студэнты ўсіх спэцыяльнасьцяў вывучаюць лаціну, а студэнты філязофскага і тэалягічнага факультэтаў яшчэ грэцкую. На дзень вы будзеце мець па тры-чатыры пары аўдыторных заняткаў, а значную частку працы давядзецца выконваць самастойна (сядзець у бібліятэках і кабінэтах па падрыхтоўцы да практычных і сэмінарскіх заняткаў, пісаць рэфэраты і г.д.). Першыя чатыры сэмэстры навучаньне ажыцьцяўляецца галоўным чынам па праграме гуманітарнай падрыхтоўкі, наступныя – вывучэньне дысцыплінаў спэцыяльнасьці. Апошнія сэмэстры прадугледжваюць вытворчую практыку і выкананьне дыплёмнага праекту.

ЭГУ прапануе на конкурснай аснове абмежаваную колькасьць бясплатных месцаў. Распрацаваная шкала адмысловых тарыфаў, паводле якой прызначаюцца зьніжкі на аплату навучаньня ў залежнасьці ад сярэднега балу па выніках сэсіяў. Многія студэнты ЭГУ, каб аплаціць навучаньне, працуюць.

Але нават такія перагружаныя вучобаю людзі, як студэнты ЭГУ, знаходзяць час для распрацоўкі і ўдзелу ў студэнцкіх праектах, якія датычацца пазанавучальнае дзейнасьці. Ініцыятыўныя людзі, вядома, ёсьць у любым студэнцкім асяродку. Вось толькі заўважаюць і падтрымліваюць іх далёка ня ў кожнай беларускай ВНУ. У ЭГУ для каардынацыі работы са студэнтамі з падачы адміністрацыі створаны Цэнтар выхаваўчай працы і падтрымкі студэнцкіх ініцыятываў. Супрацоўнікі Цэнтру адразу адмовіліся ад мэтодыкі навязваньня, прымусу і “абавязалаўкі”. Галоўныя функцыі Цэнтру – прапанаваць, дапамагчы, падтрымаць і паспрыяць. Цэнтар выступае ў якасьці пасярэдніка паміж студэнтамі і адміністрацыяй. Яму давяраюць і лічаць “сваім” як адны, так і другія. Студэнты самі прыходзяць зь ідэямі і самі іх рэалізуюць. Як акрэсьлівае мэту дзейнасьці Цэнтру маладая й энэргічная дырэктарка Ірына Сямко, “мы імкнемся паказаць магчымы мэханізм рэалізацыі ініцыятывы і адначасова навучыць адказнасьці за тое, што робіцца...” І вынік такога падыходу даволі плённы. Студэнты выдаюць “Інфармацыйны бюлетэнь Эўрапейскага Гуманітарнага Ўнівэрсытэту”, які зьмяшчае навіны з жыцьця факультэтаў ЭГУ, інфармацыю пра новыя праекты, магчымасьці вучобы й стажыровак на Беларусі і за мяжою, а таксама прапануе сустрэчы зь цікавымі асобамі, агляды выданьняў ЭГУ і інш. Ва ўнівэрсытэце створаны Клюб парлямэнцкіх дэбатаў, тэатар, хор, музычныя гурты, танцавальны калектыў, група валянтэраў, Асацыяцыя студэнтаў франка-беларускага факультэту, Студэнцкі парлямэнт ЭГУ па самакіраваньні й інш.

*Вось такое бурлівае жыцьцё ў студэнта ЭГУ. Такім чынам, не паступайце ў ЭГУ, калі ўсе студэнцкія гады вы марыце пралайдачыць і вашая будучыня вас ня вельмі клапоціць. І паступайце, калі вы не баіцеся працы, жадаеце атрымаць адукацыю на эўрапейскім узроўні і добрую прафэсійную падрыхтоўку.*

Што чуваць?

## Запарoскі рэсурсавы цэнтар

распрацаваў зборнік «Праграмы стыпэндыяў» (Scholarship Opportunities), які можа зацікавіць беларускіх студэнтаў і асьпірантаў. Брашура зьмяшчае інфармацыю пра праграмы, якія дзейнічаюць і ў Беларусі. Сярод іх:

- ***адукацыйныя праграмы для школьнікаў, студэнтаў, асьпірантаў і дактарантаў;***
- ***дасьледчыя праграмы;***
- ***праграмы прафэсійных стажыровак;***
- ***праграмы кшталту “Work and Travel”, ня толькі ў ЗША, але і ў Эўропе.***

Таксама тут можна знайсьці Інтэрнэт-спасылкі па праблемах адукацыі, фінансавай дапамогі, тэставаньня й іншых пытаньнях, якія хвалююць ахвотных стажавацца за мяжой.

Поўную інфармацыю можна атрымаць праз *e-mail:*

*barc@user.unibel.by*

# Сьвятлана Каралёва: "Я — чалавек трэцяга сэктару"

## Невялічкая анкета для Сьвятланы Каралёвай

***Улюбёны колер:*** ***спалучэньне зялёнага і чорнага***

***Улюбёнае адзеньне: джынсы, кароткая спадніца***

***Улюбёная пара году: канец вясны***

***Улюбёны алькагольны напой: ірляндзкі віскі "Daddy"***

***Нялюбая страва: канапкі (у любым выглядзе)***

***Улюбёная краіна: Італія***

***Самыя каштоўныя чалавечыя якасьці: надзейнасьць, мудрасьць***

*Сьвятлана Каралёва – асоба выбітная і ў сфэры NGO даўна вядомая. Ейная дзейнасьць у якасьці прафэсійнага NGOшніка распачалася напачатку 90-х гадоў, калі трэці сэктар Беларусі рабіў свае першыя крокі. Тады, 10 год таму, Сьвятлана Каралёва з групай аднадумцаў стварылі ўнікальную моладзевую арганізацыю "Next Stop – New Life", якую з тае пары яна нязьменна ачольвае. Аднак Сьвятлана ніколі не спынялася, ніколі не кідала пошукаў свайго "identity" (гэта ейнае слоўца) і больш эфэктыўных спосабаў узаемадзеяньня з грамадзтвам. Да прыкладу, апошнім часам яна актыўна працуе ў няўрадавай арганізацыі "Жаночы адказ". Вынікае пытаньне: зь якога ж цеста зробленыя людзі з такой неўтаймоўнай энэргіяй, як Сьвятлана Каралёва? Сакрэты раскрывае сама Сьвятлана Каралёва.*

***Сьвятлана Каралёва*** – Асноўныя якасьці, якія дазволілі мне дасягнуць посьпеху ў NGO-дзейнасьці? Па-першае, я ўмею сябраваць, хоць гэта, напэўна, гучыць неяк па-дзіцячаму. Уменьне сябраваць напрасткі зьвязанае з тым, што я люблю людзей. Проста люблю людзей. Мяне радуюць ня толькі мае асабістыя посьпехі, але й посьпехі маіх знаемцаў ды сяброў. Думаю, гэткае чалавекалюбства не аднойчы дапамагала мне ў працы: з "Next Stop – New Life" выйшла не адна моладзевая арганізацыя... Такім чынам, па-другое, я люблю людзей. Па-трэцяе, я заўсёды цалкам засяроджваюся на вырашэньні праблемы. Стаўлю перад сабой мэту і раблю ўсё магчымае, каб яе дасягнуць.



*Здымкі з архіву С. Каралёвай*

***Марына Мікуліч – А калі мэты няма?***

*С.К.* – Тады надыходзіць тое, што я называю дэпрэсіяй. Але гэта хутка мінае. Відаць, такія пэрыяды разгубленасьці тлумачацца пераацэнкай каштоўнасьцяў ды пераарыентацыяй мэтаў.

***М.М. – Ці часта здараюцца ў Вашым жыцьці такія дэпрэсіі?***

*С.К.* – Здаецца, я магу іх усе пералічыць. Напрыклад, у сьнежні 1995 году, калі адміністрацыя прэзыдэнта вырашыла секчы рудпічныя стойкі *(стандарт драўніны – М.М.)* у Бярэзінскім запаведніку. Па-першае, сам гэты запаведнік ёсьць адной з унікальных мясьцінаў Эўропы. Па-другое, гаворка ідзе пры агульнанацыянальнае багацьце, і прэзыдэнт на яго ня мае аніякага права. Памятаю, тады я была дужа абураная: "Як ён мог?!" Мне адразу стала сорамна прадстаўляць краіну, на чале якой стаіць гэткі прэзыдэнт. Але адначасова ўзьнікла пытаньне: што ж, як не краіна, мусіць стаяць за маімі плячыма? Пасьля доўгіх развагаў я вырашыла для сябе, што маю права прадстаўляць недзяржаўны сэктар Беларусі – тых людзей, якія ня згодныя з палітыкай А.Лукашэнкі. Вынікам тае дэпрэсіі было пераразьмеркаваньне каштоўнасьцяў. Тады ж адбылася і пераарыентацыя на новую мэтавую групу – на маладых людзей, бо нашае грамадзтва фактычна падзялілася на дзьве часткі: прагрэсіўную моладзь і старое савецкае пакаленьне. Наступная дэпрэсія напаткала мяне ў 1996 годзе, калі зьявіліся першыя праявы так званага нэасаветызму...

***М.М. – А ці магчымая новая дэпрэсія ў сувязі з маючымі адбыцца прэзыдэнцкімі выбарамі?***

*С.К.* – Яна ўжо мінула. Вынікам сталася ўсьведамленьне таго, што адзіным легальным спосабам выяўленьня сваёй нязгоды зь існым рэжымам і ўплыву на палітычныя падзеі ёсьць партыя. Так, пакуль мы слабыя ў электаральных тэхналёгіях, але гэта, я лічу, справа тэхнікі. Галоўнае – у нас, NGOшнікаў, ёсьць досьвед працы з мэтавымі групамі, досьвед стратэгічнага пляваньня (тая самая рэалізацыя праектаў) і ўменьне весьці цывілізаваны дыялёг.

***М.М. – Такое ўражаньне, што ўсё Вашае жыцьцё – у трэцім сэктары...***

*С.К.* – Відаць, так. Усе мае сябры круцяцца ў асяродку NGO альбо ў свой час зь яго выйшлі. Мой маленькі сын езьдзіць са мной па ўсіх сэмінарах. Мая прафэсійная дзейнасьць таксама цалкам сканцэнтраваная ў трэцім сэктары. Так, я чалавек трэцяга сэктару і шчасьлівая, што знайшла сябе. Калі шчыра, на іншым месцы я сябе не ўяўляю. У дзяржаўным сэктары я была б занадта дрэнным падначаленым, бо заўсёды маю сваё ўласнае меркаваньне. У бізнэсе таксама б не прыжылася: сам працэс здабываньня грошай мне не цікавы. У трэцім жа сэктары мяне вабіць магчымасьць распрацоўваць буйныя праекты – гады гэтак на тры, – а потым назіраць, як пэўная карцінка ў агульным грамадзкім калейдаскопе цалкам зьмяняецца.



***М.М. – Сьвятлана, як Вы бачыце сваю будучыню?***

*С.К.* – Канешне, у трэцім сэктары. Трэцы сэктар – зьява новая й нестабільная, але ж будучыня за ім. Магчыма, гады праз два я стану палітычным дзеячом, але гэта будзе зьвязана зь якімі-небудзь асабістымі амбіцыямі – напрыклад, стаць дэпутатам. Трэці сэктар можа распрацаваць шляхі вырашэньня праблемаў, але ж не паставіць пячатку "Зацьверджана". Таму, я лічу, у дзяржаўных структурах павінны быць свае людзі, якія б спрыялі разьвіцьцю краіны.

*Сьвятлана Каралёва – прафэсійны NGOшнік. Сёньня безь яе ўжо нават цяжка ўявіць сабе трэці сэктар Беларусі. "Next Stop – New Life", "Жаночы адказ"... Хто ведае, якой будзе наступная прыступка? Але такія генэратары ідэй і энэргіі жыцьцёва неабходныя NGO Беларусі.*

***Гутарыла Марына Мікуліч***





2 Зак. 1948

Стан рэчаў

*Наталя Мусіенка*

# Як справы ў Манрэалі?

***В****ы калі-небудзь спрабавалі падлічыць, колькі разоў на дзень чуеце пытаньне – як справы? А колькі разоў на яго адказваеце і як?*

У Паўночнай Амэрыцы гэтае рытуальнае пытаньне мае сваю спэцыфіку. Сустракаеце сябрука ў Манрэалі – месцы, улетку падобным да Ялты, а ўзімку – да вялікае гурбы. Тут гэтае пытаньне можа гучаць па-француску ці па-ангельску: *Comment ca va? – How are you*?

Адказ, хутчэй за ўсё, вашаму сябру й не патрэбны – гэта проста форма прывітаньня. Размова можа нязмушана цягнуцца далей: пра надвор'е, хакей, вакацыі, а можа й пра выбары. Але калі пасьпееце-ткі ўціснуць свой адказ – ня варта замагільным голасам абвяшчаць, што ў банку ў вас засталося толькі 20 даляраў і, акрамя новых неаплочаных рахункаў, вы даўно ўжо не атрымліваеце ніякай пошты. Страта працы, жонкі (мужа), машыны таксама наўрад ці каго зацікавіць. Усе гэтыя дробныя прыемнасьці жыцьця можна распавесьці, патэлефанаваўшы на адмысловую "гарачую лінію". Адпаведныя нумары клапатліва разьвешаныя па ўсім месьце: у прыбіральні – для ахвяраў згвалтаваньня, у мэтро – для "блакітных", ва ўнівэрсытэтах – для тых, каму да 30-ці і г.д.

А ваш сябра – не супрацоўнік гэткай лініі. Ён ішоў сабе, заглыблены ў свае праблемы, раптам сустрэў вас і проста спытаўся, як справы, а вы яго... Ён нават можа падумаць, што вы яго выкарыстоўваеце!

Манрэальцы – людзі прыязныя, шчырыя й спагадлівыя. Галоўнае, каб у іх ня склалася ўражаньне, што іх выкарыстоўваюць. Ці, як кажуць абедзьвюма тамтэйшымі мовамі, – прафітуюць. Усё павінна быць сумленна: ты мне – я табе, *donnant – donnant*, *giving – giving*. А калі ў адзін цудоўны дзень вы на чалавека вешаеце свае праблемы – няма сумневу, вы яго выкарыстоўваеце. Таму ня трэба зьдзіўляцца, калі той, каму вы паплакаліся пра апошнія 20 даляраў, ня будзе тэлефанаваць вам месяц; той, каго абцяжарылі сямейнымі праблемамі, – год; а той, на каго вывернулі ўсё разам, – ніколі. *C'est la vie*, як тут кажуць.

На пытаньне "як справы?" чароўна ўсьміхайцеся і цьвёрда адказвайце – цудоўна. Варыянты кшталту "так сабе", "ідуць", "нічога" наўрад ці натхняць суразмоўцу на працяг гутаркі. Лепей дзяліцца чымсьці маленькім, але прыемным. "Вось учора вячэраў у супэраўскай рэстарацыі – недарагой, смачнай, утульнай. Хочаш, дам адрэсу?" – "Вядома!"

Пакуль нашае грамадзтва па інэрцыі з апошніх сілаў будуе сьветлае ўчора, паўночнаамэрыканцы апанавалі "сьветлае" сёньня. Яны ўмеюць яго шанаваць і атрымліваць ад яго асалоду. І ў летнюю сьпёку, калі, здаецца, усё места смакуе піва на тэрасах. І пахмурна-сьнегавой зімой, калі ад надвор'я (а часам і ад сябе) можна схавацца ў камфартабэльных падзямельных прасторах.

І ў Канадзе ёсьць парлямэнцкія выбары, палітычная сытуацыя ў Квэбэку напружаная ўжо колькі дзесяцігодзьдзяў, вялікіх і малых праблемаў хапае... Але людзі імкнуцца радавацца таму, што ёсьць, – напрыклад, калядным ялінкам.

Таму пры сустрэчы пытаньне "як справы?" можна закрыць усьмешкай. Але ў самай камунікацыйна разьвітай частцы плянэты, Паўночнай Амэрыцы, людзі кантактуюць у асноўным па тэлефоне, а з магічнага пытаньня "як справы?" пачынаецца любая размова – ад мілосных прызнаньняў да бізнэсовых перамоваў. І адказ павінен быць жыцьцесьцьвярджальным, каб той, хто тэлефануе, не пашкадаваў, што набраў ваш нумар. Калі вы ня ў форме – лепей слухаўкі не бярыце, атрымайце паведамленьне на аўтаадказчык і ператэлефануйце, калі голас падкуеце. Інакш праца можа накрыцца і сябар абразіцца. У Паўночнай Амэрыцы разумееш, чаму ў таталітарныя часы чыноўнікі ўставалі падчас размовы па тэлефоне з высокім начальствам – каб лепей гучаць...

У дзяржаўных установах, прыватных кампаніях, вялікіх і маленькіх крамах Манрэалю з вамі будуць размаўляць ветліва, гжэчна выказваць спадзяваньне, што справы ў вас ідуць добра, і жадаць, каб ішлі яшчэ лепей. Для параўнаньня паэкспэрымэнтуйце й патэлефануйце на далёкую радзіму. Калі трапіце ў дзяржаўную ўстанову, вам адкажуць з такой халоднай пагардай, што зробіцца сорамна за турботу. Калі ў прыватную фірму – па стомленым голасе ейнага ўласьніка адразу зразумееце, што ён ноч (а мо й не адну) ня спаў, рыхтуючыся да сустрэчы з падаткавай. Пытаньне пра стан справаў будзе папросту недарэчным. А ўсьмешку ў адказ па тэлефоне атрымаеце толькі ад мамы, бо яна заўжды радая вас чуць.

Што ж атрымліваецца? У іх справы заўсёды ідуць выдатна, а ў нас... Мая прабабка пракамэнтавала б гэта адназначна: смажанага ваўка яны ня бачылі. Так – ня бачылі! Але пытаньне ня ў тым, дзе горай, а дзе лепей – проста правілы гульні розныя. Можа, і нам паспрабаваць больш усьміхацца? Даўжэй жыць будзем?

Такім чынам, як справы? – Файна! Цудоўна! Выдатна! *(Патрэбнае падкрэсьліць).*

***Паводле часопісу "ПІК" №48 (83)***

■





School Life

*Стася Куніцкая*

# Бэскі Ўнівэрсытэт

***У****нівэрсытэт, які месьціцца ў ангельскім горадзе Бэс, дае магчымасьць займацца навукай васьмі тысячам старанных студэнтаў, прычым для 900 зь іх Ангельшчына ня ёсьць роднай краінай. Гэта значыць, што беларускія студыёзусы й абітурыенты таксама могуць паспытаць шчасьця ў змаганьні за месца ў Бэскай ВНУ.*

Ніхто не прымушае іх зрывацца з абжытае мясьціны ў імкненьні карэнным чынам зьмяніць сваё жыцьцё. Воля іхняя – можна спакойна пераводзіцца на наступны курс ці штурмаваць прыёмныя камісіі айчынных вышэйшых школаў. А можна правесьці некалькі год сваёй маладосьці ў фэшэнэбэльным курортным горадзе. Менавіта такую рэпутацыю мае Бэс. Некалі гэты райскі куток адкрылі антычныя рымляне. Яны й заснавалі тут селішча. Самі ангельцы згадалі пра свой скарб у XVIII стагодзьдзі: яны ўпадабалі тут "прымаць ванны", разбаўляючы гэтыя працэдуры паабедзеннай гарбатай ды танцамі.

Акрамя Бэскага музычнага фэсту, які цяпер уважаецца за адзін з найзнакаміцейшых і найпрэстыжнейшых у Эўропе, на працягу ўсяго году тут ладзіцца яшчэ безьліч культурных імпрэзаў. Ёсьць на чым спыніць у захапленьні свае вочы й аматарам даўніны, гісторыі ды іншых музэйнасьцяў. Заўсёды рады вітаць гасьцей мастацкая галерэя Вікторыі, дзе экспануецца гарадзкая калекцыя й большасьць вандроўных экспазыцыяў, Холнбурскі музэй, што знаходзіцца пад куратарствам унівэрсытэту, і шмат іншых цікавых для знаўцаў месцаў. Чаго вартыя хаця б знакамітыя музэі касьцюму ці ўсходнеазіяцкага мастацтва, галерэі Каралеўскае фатаграфічнае супольнасьці й гэтак званага наіўнага мастацтва.

Але вяртаемся на зямлю, у XXI стагодзьдзе. Бэскі Ўнівэрсытэт, зьяўляючыся восьмым у рэйтынгу брытанскіх ВНУ, робіць моцны акцэнт на адукацыі для існаваньня ў рэальным сьвеце. Адсюль – высокія патрабаваньні да абітурыентаў. Бальшыня курсаў мае практычную частку, а часам і шырокі выбар месцаў для практыкі. Гэта дае студэнтам магчымасьць больш грунтоўна азнаёміцца з будучай прафэсіяй, перад ▶

тым як вярнуцца на апошні курс і рыхтавацца да абароны дыплёмнага праекту.

Шырыня ведаў, кваліфікацыі й магчымасьць хутка прыстасоўвацца да любое сытуацыі – вось асаблівасьці ступені, якую атрымліваюць выпускнікі Бэскага Унівэрсытэту. Праграмы забясьпечваюць бэскіх навучэнцаў навыкамі, запатрабаванымі ў сёньняшнім небясьпечным і зьменлівым навакольным сьвеце. Бэскіх студэнтаў мэтанакіравана рыхтуюць для рынку працы.

Унівэрсытэт складаецца з трох факультэтаў. Прымаюцца заявы ад тых, хто жадае зьнітаваць сваё жыцьцё зь інжэнэрыяй ды дызайнам, гуманітарнымі, сацыяльнымі ці натуральнымі навукамі. Сюды ж далучаецца вышэйшая школа мэнэджмэнту. 15 аддзяленьняў ствараюць усе магчымасьці для атрыманьня адмысловае альбо зьмяшанае ганаровае ступені.

Навучальны год у Бэс, як і ў Беларусі, падзяляецца на два сэмэстры: першы пачынаецца ў верасьні, другі – у лютым. Пасьля дванаццаці тыдняў асноўнага курсу заняткаў надыходзяць тры самыя адказныя сямідзёнкі – сэсія. Адпачываюць студэнты тройчы на год: на Каляды, Вялікдзень і ўлетку. Для тых, хто адчувае патрэбу мяняць атачэньне ня толькі ў часе вакацыяў, паведамляем: у чыгуначным раскладзе пазначана, што цягнік на Лёндан адбывае штогадзіны. Ён даімчыць вас да сталіцы за нейкія там гадзіны паўтары. Да Брысталю ж яшчэ бліжэй – 15 хвілін падарожжа па рэйках. Адылі, можна адпачыць ад вечнае гарадзкое мітусьні ў навакольных Бэскіх лясох.

Бэс прымае турыстаў занадта блізка да свайго ангельскага сэрца. Таму й студэнты пачуваюцца там, як дарагія госьці. Дарагія настолькі, што ім дазваляецца *make themselves at home*. Адмыслова для іх па ўсім горадзе, між эксклюзіўных антыкварных маркетаў, раскідана мноства ўнікальных маленькіх крамаў, камісійных установ, лавачак, дзе на паліцах хаваюцца самыя нечаканыя рэчы. Ёсьць у Бэс куды запрасіць сваю новую сяброўку й дзе сустрэцца з хаўрусьнікамі пасьля заняткаў. Можна пацягваць гарбату ў адноўленых *Pump Rooms* пад акампанэмэнт вакальнага трыё, а можна далучыцца да заўсёднікаў утульных і арыгінальных кавярняў.

Што да міжвакацыйных перыядаў, дык унівэрсытэт ганарыцца сваім навучаньнем у малых групах, адмысловымі настаўніцкімі мэтодыкамі, што разьвіваюць у студэнцтва аналітычныя, прэзэнтатыўныя й камунікатыўныя здольнасьці, на якія існуе сталы попыт сярод наймальнікаў. Сувязі з найлепшымі ўнівэрсытэтамі Эўропы, Канады й ЗША сьведчаць пра высокую рэпутацыю Бэскае ВНУ й грунтоўнасьць ейнае адукацыі. Перад апошнім годам навучаньня студэнты атрымліваюць магчымасьць займацца ў замежных унівэрсытэтах, працаваць у лепшых дасьледчыцкіх лябараторыях сьвету. Год за мяжой дазваляе зрабіцца сапраўдным адмыслоўцам міжнароднае клясы. Такіх супрацоўнікаў жадаюць бачыць у сваіх шэрагах мультынацыянальныя кампаніі любога памеру. 70 адсоткаў выпускнікоў штогод уладкоўваюцца на сталую працу, 19 – працягваюць навучаньне ў магістратурах ды дактарантурах. Астатнія сьпяшаюцца заняцца дабрачыннасьцю ці, стомленыя пасьля складанага шляху да дыплёму, бавяць час у падарожжах.

А шлях гэты распачынаецца з таго, што кожны першакурсьнік атрымлівае ўласны *username* і пароль, які дазваляе карыстацца з паслуг унівэрсытэцкага кампутаровага сэрвісу. Бэская ВНУшная сетка лучыць больш як 400 PC, доступ да якіх адкрыты 24 гадзіны на содні й 7 дзён на тыдзень. Найноўшае праграмнае забесьпячэньне ўлучна з адмысловымі пакетамі праграм для вузкіх спэцыялістаў тэхнічнага кірунку спаборнічае са спакусай невылазна вандраваць па хуткім, як самалёт, Інтэрнэце ці гартаць бясконцыя каталёгі й энцыклапэдыі. Адцемім, што кампутарамі абсталяваная й бібліятэчная скарбніца, якая налічвае звыш 400.000 тамоў. Яна таксама ня мае замкоў на дзьвярох (доступ да літаратуры такі ж вольны, як і да кампутараў).

Для сучаснага студэнцтва, асабліва беларускага, вырашальным чыньнікам пры выбары ВНУ становіцца колькасьць грошай, якія давядзецца аддаць за магчымасьць наведваць лекцыі й здаваць сэсіі. Фінансавая служба Бэскага Унівэрсытэту займаецца ня толькі зьбіраньнем грошай са студэнцтва, але й тлумачыць, на што й колькі яны выдаткоўваюцца, а таксама падбірае аптымальную для кожнага з новенькіх сыстэму выдаткаў. Адылі, там можна атрымаць парады наконт кампэнсацыі сваіх стратаў. Шмат для каго прадуг-





леджаныя стыпэндыі, зьніжкі, гранты й гэтак далей. У скрайнім выпадку можна дамовіцца аб атрыманьні пазыкі на льготных умовах. Фінансавая служба таксама дапамагае адшукаць месца тым, хто жадаў бы прысьвяціць працы частку свайго вольнага часу ці зарабіць у часе вакацыяў.

Адміністрацыя Бэскага Унівэрсытэту прапаноўвае шукаць магчымасьці кампэнсацыі выдаткаў на навучаньне. Ужо ў анкеце для прэтэндэнтаў на месца ў гэтай ВНУ сярод варыянтаў аплаты навучаньня ёсьць зварот па фінансавую падтрымку. І гэта датычыцца нават тых, хто ўважае даходы сваёй сям'і занадта высокімі для такое просьбы.

На жаль, ня ўсе праекты фінансавае падтрымкі прымаюць заявы ад замежных навучэнцаў. Але здабыць стыпэндыю лягчэй, чым апынуцца ў сьпісах залічаных. Таму першай задачай для *overseas students* усё ж ёсьць дэманстрацыя сваіх ведаў і здольнасьцяў.

Для замежнага студэнцтва круглы год адчыненая адмысловая дапаможная служба. Перад прыездам ў Бэс кожнаму з замежнікаў дасылаюць усю неабходную чужынцу інфармацыю. Для зноўку прыбылых арганізаваны нават бясплатны аўтобусны тур ад аэрапорту Гітроў да ўнівэрсытэцкага гарадка. Яшчэ да пачатку заняткаў замежным студэнтам прапануюць прайсьці інтэнсіўны курс ангельскае мовы. Шліфоўка пісьменнасьці, красамоўства, пашырэньне слоўнікавага запасу й курс бізнэс-ангельскае дапамогуць вытрымаць Кэмбрыскі іспыт па ангельскай й гарантуюць адсутнасьць моўных праблемаў у часе навучаньня.

Першым крокам на шляху ў Бэскі Унівэрсытэт для беларускіх студэнтаў будзе зварот на вэбсайт гэтае ўстановы на www.bath.ac.uk ці замова анкеты праз www.ucas.com. Сьпяшайцеся, апошні тэрмін прыёму дакумэнтаў – 30 чэрвеня.

■















3 Зак. 1948

Стан рэчаў

Вольга Цяцёркіна

# Каханьне ў чатырох гіпастазіях

*Межы маёй мовы – гэта межы майго сьвету.*
**Людвіг Вітгенштэйн**

*Як багата мова можа распавесьці пра народ, які ёсьць ейным носьбітам! Чаму менавіта ў гэтай мясцовасьці, у гэтага насельніцтва вынікаюць менавіта такія словы – і ніякія іншыя? Вось ужо сапраўды – паразмаўляй са мной, і я скажу, хто ты і адкуль.*

Цікава параўноўваць, як адныя й тыя ж факты адлюстроўваюцца ў розных мовах. Напрыклад, у мове эскімосаў (у Канадзе яна завецца Inuktitut, на Алясцы – Inupit, у Грынляндыі - Kalaallisut) існуе вялікая колькасьць вызначэньняў панятку "сьнег". У залежнасьці ад таго, да каго вы зьвернецеся, вы пачуеце ад 8 да 50 розных словаў. Напрыклад, сьнег, які падае (gana), адрозьніваецца ад сьнегу, які ўжо выпаў (akllukilk). Гэткая варыянтнасьць, безумоўна, сьведчыць пра значнасьць такой зьявы, як сьнег, для жыхароў поўначы. На шчасьце, беларусы – не такая "замарожаная" нацыя: нашая мова ня здольная перадаць усе нюансы эскімоскага ўяўленьня пра сьвет (хаця нечаканага госьця, што зваліўся як сьнег на галаву, мы можам і без таго ахарактарызаваць якім-небудзь адным трапным слоўцам). Затое аладкі зь цёртае бульбы ў нас завуцца дранікамі (коратка й зразумела, а да таго ж танна й калярыйна – якраз для студэнтаў); а той шматгалосы бязглузды гоман, які можна пачуць у перапынках паміж лекцыямі, мы назавем простым словам – гамарня.

Менавіта ў мове адлюстроўваюцца надзённыя патрэбы грамадзтва. Напрыклад, народнасьць, што жыве на экзатычных выспах Паўдзённага мора, для пазначэньня прадукту штодзённага попыту – какосавага гарэха – мае вялікае мноства словаў. Тубыльцы ня толькі адрозьніваюць асобныя часткі гэтага самага гарэха, але й могуць адным словам даць зразумець, як ён быў выкарыстаны: зьелі адразу, добра падсмажылі альбо проста выкінулі (цікава, дарэчы, было б даведацца, як адбіваецца празьмернае чалавекалюбства на мове канібалаў). А ў клясычнай арабскай існуе больш за шэсьць тысяч словаў для пазначэньня такой неад'емнае рэаліі тамтэйшага жыцьця, як вярблюд. Пэўна, калі навакол пустэча, уся творчая энэргія факусуецца на адзіным жывым аб'екце. Але няма чаго далёка хадзіць за прыкладамі: любы нармалёвы ўкраінец укладае ўсю гаму пачуцьцяў у адно караценькае слова – "сала"!

У пазначэньні колераў таксама назіраюцца адрозьненьні. У Бразыліі жыве племя індзейцаў Kamayura, якія называюць сіні і зялёны адным і тым жа словам. А племя дані з Новае Гвінэі наагул адрозьнівае толькі два колеры – "цёмны" і "сьветлы". І нам застаецца толькі здагадвацца, якія прычыны маглі прывесьці да гэткага кардынальнага падзелу наваколья.

Затое ў беларускай мове ёсьць адмысловыя словы для пазначэньня някруглых лічбаў. Напрыклад, два з паловай будзе "паўтраця", 55 – "паўшастадзесят", 750 – "паўвасьмаста"! Гэта значыць, што да "круглясьці" лічбы не стае паловы апошняга разраду. Такія матэматычныя тонкасьці могуць сьведчыць пра тое, што беларусы заўсёды дзяліліся *апошнім* (не забываючыся пры гэтым пакінуць сабе львіную долю).

У беларускай існуюць і два адпаведнікі адзінаму расейскаму слову "любовь" – любоў і каханьне. А ў баўгараў – ажно чатыры словы, кожнае зь якіх паказвае ступень закаханасьці. Хаця мне здаецца, што быць крыху закаханым – тое самае, што трошкі зацяжараць.

І яшчэ пра нас, харошых. Ці вы заўважалі, што ў большасьці эўрапейскіх моваў – у ангельскай, нямецкай, францускай – вельмі шмат пазначэньняў часавых формаў: "будучыня ў мінуўшчыне", "цяперашчына падоўжаная" і гэтак далей. Дык вось, у нас таксама на адзін час болей, чым, скажам, у нашых адыёзных усходніх суседзяў: у беларускай існуюць такія формы, як "я быў пайшоў", "я быў хадзіў". І ў гэтым мы бліжэйшыя да заходняга ўспрыняцьця часавапрасторавых вымярэньняў.

*Дзеля чаго я гэта ўсё вам распавядаю? Выснова напрошваецца сама сабою: хочаш пабачыць сьвет іншымі вачыма – вывучай мовы!*

■





Ars Longa

Натальля Лазука

# Гэмы яскравы й фантастычны батык

*Тэхналёгіі аздабленьня тэкстыльных вырабаў з дапамогаю ручнога росьпісу распрацоўваліся яшчэ ў глыбокай старажытнасьці. Першыя зьвесткі пра атрыманьне дэкаратыўных эфэктаў на тканіне дае Пліній (23-79 г.) у сваёй "Натуральнай гісторыі". Найцудоўнейшай дасканаласьці ва ўпрыгожваньні шоўку дасягнулі кітайскія майстры. Яшчэ да нашай эры ў Кітаі распаўсюдзіўся асаблівы від тэкстыльнага малюнку, у якім ткацкі ўзор злучаўся з росьпісам пэндзалем.*

Тэхніка батыка, якая атрымала значную папулярнасьць сёньня, – адзін з самых старажытных спосабаў аздабленьня тканіны. Нарадзіўшыся ў Інданэзіі, батык распаўсюдзіўся на краіны Акеаніі, Афрыкі, Індыі, Сярэдняй і Малой Азіі. У Заходнюю Эўропу ён прыйшоў зь вялікім спазьненьнем – калі "батычныя" тканіны пачалі экспартавацца зь Індыі ў Ангельшчыну. Аднак яны перапрацоўваліся на эўрапейскі лад.

Аўтэнтычны батык зьвярнуў на сябе ўвагу мастакоў напрыканцы XIX стагодзьдзя, што было найперш зьвязана з эстэтыкай стылю Арт Нуво (мадэрн). Менавіта тады спэцыфічныя матывы батыку, сфармаваныя за стагодзьдзі ягонага існаваньня ва ўсходніх краінах, пачалі не перарабляць, але вывучаць і выкарыстоўваць як адзіную сыстэму. Тэхналёгія заўжды дыктуе спэцыфіку і вобразнай мовы, і калярыстычнай гамы, і дэкору.

Для батыку характэрная плястычная свабода маляваньня, заснаваная на спэцыфіцы выкарыстаньня рэзэрваў – саставаў, што абмяжоўваюць каляровыя плоскасьці выявы, тым самым разьбіваючы яе, утвараючы зь ілюзіі трохмернага вобразу двухмерны –пляскасны. Сама лінія абрысу дыктуе спэцыфіку выявы й яе адносіны да зьнешняга фону і ўнутранага напаўненьня. У пляне працы з прадметам адлюстраваньня гэта нагадвае тэхніку вітражу.

Усё гэта прыводзіць да зьяўленьня новых кампазы- ▶


Натальля Катцына, "Песьня да Эльзы" (2000, 50x50, гарачы батык)


Вераніка Марозава, "Лесьвіцы" (1999, 30x30, зьмяшаная тэхніка)


Таццяна Новікава, "Цмок" (1999, 40x40, халодны батык)


Натальля Катцына, "Каралеўскія гульні" (1999, 60x80, халодны батык)


Вераніка Марозава, "Настрой" (2000, 30x30, халодны батык)


Натальля Катцына, "Лявандавая вакса" (1999, 60x80, гарачы батык)

цыйных і калярыстычных прыёмаў дэкараваньня, да распрацоўкі нечаканых, фантастычных узораў і матываў. Экзатычны батык пачаў зьяўляцца на хустках, фіранках, шырмах, падушках, накідках. З "батычных" тканінаў рабілі суцэльныя сукенкі, гарнітуры.

Адзін з момантаў новага "засваеньня" батыку – сярэдзіна 60-х і 70-я годы, час руху гіпі ў СССР, пратэсту супраць абмежаванасьці жыцьця, час фармаваньня новай моладзевай субкультуры. Яе прадстаўнікі намагаліся аддзяліцца ад грамадзтва, падкрэсьліць сваю непадобнасьць да іншых празь нестандартную лексыку, стыль паводзінаў і зьнешні выгляд – фенечкі, разнастайныя хайратнікі (павязка на галаву), ксыўнікі (кашэль для пашпарта, які носяць на грудзёх) і іншую зьнешнюю атрыбутыку. Элемэнты экспартаванай з Захаду (а туды, у сваю чаргу, завезенай з Усходу, у тым ліку і зь Індыі) экзотыкі перакачавалі ў культуру гіпі ў выглядзе выкарыстаньня незвычайнай вышыўкі, аздабленьня вопраткі махрамі, афарбоўкі кашуль хімічнымі фарбавальнікамі ў розных тэхніках батыку. Усходнія матывы трансфармаваліся, перараблякліся, да іх далучалася ўласная сымболіка культуры гіпі.

Сучасны беларускі батык хутчэй падлетак, чымся сталы чалавек. Таму ў ім назіраюцца пэўныя хістаньні: то ў бок акварэлепадобнага жывапісу, то амаль да кічападобных ідылістычных "букецікаў". Але незвычайны, "батычны" спосаб мысьленьня на Беларусі ўсё ж сфармаваўся. Назіраецца адыход ад "жывапісных" батыкуў-імітацый, распачаўся працэс утварэньня новай відавой структуры.

І галоўную ролю тут адыграла менавіта студэнцкае асяродзьдзе. Моладзь у сваёй творчасьці ішла шляхам экспэрымэнтаў, адмаўленьня традыцыйных уяўленьняў пра батык.

Адзін з прыкладаў гэткіх працэсаў – выстава "Розныя. 9", якая прайшла ў лістападзе 2000 году ў экспазыцыйнай залі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. На ёй прадстаўляліся працы студэн-


Лідзія Катлярская, "Варыянт №1" (1999, 40x60, зьмяшаная тэхніка)



СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА • красавік 2001

Ars Longa

таў катэдры народных рамёстваў Беларускага ўнівэрсытэту культуры – Тацьцяны Беразавец, Лідзіі Катлярскай, Натальлі Катцынай, Веранікі Марозавай, Тацьцяны Новікавай, Аляксандра Новаша, Аксаны Незамядзінавай, Юліі Раманенка, а таксама кіраўніка майстэрні-лябараторыі батыку Л.У. Дамнянковай.

Гэтая выстава адлюстроўвае працэс адкіданьня батычных штампаў. І размова ідзе зусім не пра кардынальны пераход ад фігуратыўнасьці да абстракцыяў (хаця й апошнія былі). Справа ў спосабах мысьленьня, у спэцыфічнасьці ўспрыняцьця батычнага асяродзьдзя, у асаблівасьцях вобразнай мовы тканіны.

Строгасьць і выразнасьць структурных элемэнтаў, пластычнасьць формаў склалася ў звонкі палёт гнуткіх каляровых ліній у сэрыі працаў Натальлі Катцынай "Песьні да Эльзы" (2000 г., 50x50, батык, зьмяшаная тэхніка). Антытэзаю гучыць змрочная і поўная прахалоды прастора працаў Аксаны Незамядзінавай, у якіх тонеш, быццам у затканай бурбалкамі і перепляценьнямі траў бяздоннасьці зарослай сажалкі ("Міцэлій", 2000 г., 50x50, гарачы батык). Бязьдзеяньнем, застыласьцю прасякнутыя "Хаткі" Веранікі Марозавай (1999 г., 40x60, зьмяшаная тэхніка). Яны сьпяць, шчыльна прытуліўшыся адно до аднаго, у спакоі й замірэньні. А навокал у цішы бязгучна падае на брук сьнег. У паветры замёр крык вароны...

Тацьцяна Беразавец гуляе ў загадкі. Што ж яна хавае ў цемры містычнага змроку, у загадкавай пустэчы, якая сыходзіцца на даляглядзе з чорнымі хвалямі забыцьця, у сваіх бліскучых "Гарах сноў" (2000 г., 60x80, гарачы батык)? Тацьцяна Новікава, наадварот, нічога не хавае ад гледача. Ейныя згадкі пра лета, сплеценыя з рытму арнамэнтаў, мяккасьці цёплых формаў і сакавітасьці колераў, захоўваюць золата сонца ў "Натурморце" (1999 г., 40x40, халодны батык).

Выставу ў выставе зрабіла Лідзія Катлярская. Ейны


Тацьцяна Новікава, "На сінім абрусе" (1999, 40x60, зьмяшаная тэхніка)


Тацьцяна Новікава, "Натурморт" (1999, 40x40, халодны батык)


Лідзія Катлярская, "Варыянт №2" (1999, 40x60, зьмяшаная тэхніка)


Аляксандар Новаш, "Мы з табой пад месячкам" (1999, 30x40, зьмяшаная тэхніка)



4 Зак. 1948

"Варыянт №1" – гэта цэлы сьвет вытанчана-нязграбных, асымэтрычных штофаў, шклянак, пляшак, бакалаў, кубкаў, гаршчкоў, збанкоў, і кожная выява захоўвае ў сабе кавалачак неба, мроі (1999 г., 40х60, зьмяшаная тэхніка). У зьменлівай сучаснасьці ловіць Юлія Раманенка архаічны водгук – капішчы, цёмныя камяні ў разводах вадзяных трэшчын ("Этнаграфічны этуд", 2000 г., 50х60, бандан). У той самай тэхніцы працуе Аляксандар Новаш. Але сьвет яго-ных працаў – маўклівыя лясы язычніцкіх багоў, дзе ў павуціньні галінаў захаваныя пісьмёны – ніткі мінулых ці будучых лёсаў ("Дзьмухаўцы", 2000 г., 50х70, бандан).

Увогуле, разважаючы пра батык, апэруеш яго трыма асноўнымі тэхнікамі – халодны і гарачы (росьпіс з рэзэрвам), бандан (тэхніка скручваньня тканіны і "варкі" ў фарбавальніку-кіпні) і адвольны росьпіс (сюды ж адносіцца больш позьняя тэхніка аэраграфічнага росьпісу).

Але зьмяшаньне, узаемапранікненьне, накладаньне гэтых тэхнікаў утвараюць суцэльны трапяткі й шматгранны сусьвет мастацкіх вобразаў. Праяўляецца мова батыку, што склалася на глебе мэнтальнасьці заходняга чалавека, – вельмі разнастайная, поліварыянтная. Працы ўдзельнікаў выставы зьдзіўляюць сваёй непадобнасьцю адна да адной. Розныя яны ня толькі калярыстычна, але й мысьленьнем, духам. Розныя адчуваньнем: фармалізацыя, абстрагаваньне, сымбалізацыя суседнічаюць са звышдэкаратыўнасьцю, натуралістычнасьцю, аплікатыўнасьцю, брутальнасьцю, наівам.

Хацелася б дадаць колькі слоў пра стаўленьне да батыку наагул. Зьвядзеньне любой мастацкай зьявы ў адзінае вузкае рэчышча ёсьць працэсам штучным. Прыкладам тут можа быць зьвядзеньне батыку да "жывапіснай практыкі". Гэта праява альбо нізкага густу, альбо малога прафэсіяналізму, альбо стэрыятыпнасьці ва ўспрыманьні мастаком сусьвету. А калі творца ня здатны на нешта новае й непаўторнае, ён будзе папросту нецікавы гледачу.


Вераніка Марозава, "Хаткі" (1999, 40х60, зьмяшаная тэхніка)

# "Наш" Internet

*Kryvich*

*Ці даўно яшчэ ня верылася, што можна, не ўстаючы са свайго ўлюбёнага крэсла, падарожнічаць па сьвеце, знаёміцца з новымі краінамі, людзьмі і г.д.? Цяпер Інтэрнэтам нікога ня зьдзівіш. Мінае ўжо час асаблівага захапленьня Сусьветным Павуціньнем. Аднак, нягледзячы ні на што, застаюцца ў Нэце месцы, хадзіць куды – сапраўднае задавальненьне. Менавіта пра іх і пойдзе нашая гаворка.*

Колькі год таму, калі яшчэ былі працэсары *пэнтыум-!*, на Беларусь прыйшоў Інтэрнэт. Зрэшты, ня трэба думаць, што ўсё адразу добра склалася і ў першыя ж месяцы былі напісаныя ўсе рэсурсы, якія існуюць сёньня. Наадварот, доступ да сеткі мелі нямногія, і таму ў тыя часы ў беларускім Інтэрнэце было ня вельмі цікава.

Іншая справа – сёньня. Статыстыка сьцьвярджае, што ў Беларусі 100.000 карыстальнікаў Сусьветнага Павуціньня, прычым 60 адсоткаў маюць хатні доступ. Як гэта адбіваецца на "нашым" Інтэрнэце? Зьяўляецца ўсё болей "нашых" сайтаў. Думаю, шмат хто чуў пра *дранікі, карчму, дзеда Талаша, дэманстрацыю, акавіту*... Гэта самыя вядомыя, але існуе яшчэ шэраг іншых, ня менш цікавых. Пра іх – крыху пазьней. А нашую гаворку мы распачнем з сайту "Карчма ў старога Язэпа" (http://www.jazep.f2s.com/).

Набіраем адрэсу і – апынаемся проста-ткі ў карчме. Гаспадар, Язэп, вітае нас: "*Карчма ёсьць цэнтрам жыцьця беларускага социюму. Тут віруе шмат навінаў, народных плётак і чутак... Гэта – народны інфармацыйны цэнтар. Кожны прыходзіць сюды, каб за куфлем піва – а п'яны чалавек заўсёды скажа больш – падзяліцца сваімі думкамі... і абавязкова даведацца, што новага дзеецца ў ваколіцы й у сьвеце*".

З тэарэтычнай пасылкай нібыта разабраліся. На практыцы ж "народны інфармацыйны цэнтар" падзяляецца на наступныя разьдзелы: "Байкі", "Сьмешкі", "Шляхецкія думкі", "Дэмбэльскі альбом", "Цытаты палітыкаў і журналістаў", "Летапіс дэмакратыі", "Летапіс дыктатуры", "Фотагалерэя", "Каляжы", "Баба Зіна"... Гэтаксама ёсьць гасьцёўня ды пляткарня, дзе можна пагаварыць пра жыцьцё-быцьцё .

У разьдзеле "Байкі" – вядома ж, байкі (нейкі я сёньня надзвычай арыгінальны!). "*Гісторыі, зьмешчаныя тут, абсалютна рэальныя. Іх я пачуў ад розных людзей, што прыходзілі да мяне ў карчму. Таму й назваў я гэты разьдзел* байкі, *то ж бо ўсё гэта ад народу й зь яго вуснаў пададзена*", – кажа шчыры "народнік" Язэп.

"Сьмешкі" – гэта розныя прыколы й жартачкі. Як кажуць, на любы густ, праўда, з адной асаблівасьцю: усе яны палітычнае тэматыкі. Вось вам адна для прыкладу.

Патрапілі ў рай Вацлаў Гавэл, Лех Валенса й Аляксандар Лукашэнка. Апостал Пятро прыводзіць іх да Бога. Той сядзіць на стальцу й пытае ў іх: «Вы хто?» Гавэл: «Я — прэзыдэнт Чэхіі». Бог: «Ведаю, ведаю, ты зрабіў шмат рэформ, палепшыў жыцьцё людзей, сядай леваруч ад мяне». Валенса: «А я — прэзыдэнт Польшчы». Бог: «Ведаю, ты прынёс свайму народу свабоду. Сядай праваруч ад мяне». Лукашэнка: «А я празидэнт Беларусии Аляксандр Грыгоравич Лукашэнка. И пачаму эта ты расьсеўся на маём месьце?»

Такія вось, значыцца, жартачкі...

У "Дэмбэльскім альбоме" зьмешчаныя фотаздымкі А.Г. у войску – досыць цікава (асабліва ягоным фэнам).

Ну, а пра "Цытаты палітыкаў і журналістаў" казаць ня трэба: і так усё зразумела.

Хацеў бы зьвярнуць увагу на наступныя разьдзелы – "Летапіс нараджэньня беларускай дэмакратыі" і "Летапіс нараджэньня дыктатуры". Вось колькі цытатаў:

*Выступаючы 15 красавіка на сустрэчы ў Гародні, Лукашэнка назваў падпісанае Кебічам у Маскве Пагадненьне «антинародной акцией, политическим шоу и фарсам». Ён таксама выказаў свой супраціў таму, каб стаяць на каленях перад Масквой, бо «там не перед кем стоять». «Возле кормушки, имя которой* **власть**, *все хрюкают одинаково: и красные, и белые». На зварот «Господин Лукашенко» ён адказаў: «Никогда им не был и не буду, я – ничей». Таму ня дзіўна, што Агенцтва навінаў, камэнтуючы вынікі першага туру, назвала Лукашэнка «известным своими крайними националистическими взглядами».*

І яшчэ адна:

Менск. Штаб-кватэра ВС напярэдадні гадавіны рэфэрэндуму. Аргкамітэт па правядзеньні «жалобных» мерапрыемстваў выпрацоўвае тактыку й стратэгію сваіх дзеяньняў. Калі справа даходзіць да абвесткі канцэптуальных рашэньняў, Шарэцкі вымаўляе несьмяротную фразу: «Скажыце, а мэгафон будзе?» *P.S. Да мерапрыемства рыхтаваліся ўвесь год.*

Ну, вось і пагаварылі мы пра карчму. Заходзьце, як будзе час!



СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА • красавік 2001

Павучкі

А зараз пяройдзем да іншага сайту, імя якому – www.dereh.com.

Здавалася б, адрэса вельмі нэўтральная, аднак зьмесьціва гэтага сайту нікога не пакіне абыякавым. Назва сайту – "Лукашызм – што гэта такое". Зрэшты, ня толькі яна прыцягвае да сябе ўвагу, але і зьмест, і дызайн, і функцыянальныя магчымасьці. Шчыра кажучы, я нават зьдзівіўся, пабачыўшы першую старонку. Настолькі нязвыкла, настолькі прафэсійна выканана – міжволі пачынаеш думаць, што не такія ўжо і дрэнныя нашыя вэб-дызайнэры.

Тут зьмешчаныя артыкулы вядомых і невядомых аўтараў, газэтныя публікацыі, фота- і аўдыёматэрыялы. Акрамя ўсяго названага, ёсьць прафэсійна зробленыя гасьцявая кніга й форум, дзе разгортваюцца сапраўдныя дыскусіі пра палітычную сытуацыю ў сучаснай Беларусі.

Адзін наведвальнік-расеец пакінуў вось такі запіс у гасьцявой кнізе: *"Добрый день! Действительно, сайт ваш странен до неприличия самим фактом своего существования. Я не могу понять, о какой диктатуре вы можете говорить, если вы реально существуете, реально присутствуете в Инете. На каком основании вы называете Лукашенко последним диктатором, если на самом деле он суперлиберал... Те свободы, что есть у вас, нам просто не снились! Завидуем вам искренне, нам бы сюда таких руководителей, как Лукашенко".*

Такія вось думкі ў жыхароў суседняе дзяржавы. Ад сябе хочацца сказаць, што сайт сапраўды варты, каб на яго зайсьці.

*Ну што ж, на гэтым мой сёньняшні аповед скончаны. Чакайце працягу!* ■

*Незалежны Экспэрт*

# Дылі, ногі, ножкі...

*З надыходам вясны жыцьцё зьмяняецца. Дзяўчаты раптоўна прыгажэюць, і ў мужчынскіх вачох запальваюцца гарэзьлівыя агеньчыкі. І ўжо не на інтэлект дзяўчыны зважаюць хлапцы, але на рэчы нашмат больш празаічныя – на прыгожыя ножкі. Можа менавіта пра гэты выпадак сьпяваў – ды з такім прыдыханьнем! – Джон Ленан: "Oh, girl"...*

Адзін навуковец – а можа, і паэт – сказаў, што на сьвеце не бывае дзвюх аднолькавых дзявочых ножак, але ўсе яны выклікаюць толькі захапленьне. Другі ж распрацаваў цэлую тэорыю, што форма вышэйзгаданых канцавін кардынальна ўплывае на характар, паводзіны й кар'еру дзяўчыны. Доўгія ногі – прыкмета рамантычнасьці. Дзяўчаты з такімі нагамі больш чульлівыя, болей адарваныя ад рэчаіснасьці, жывуць пераважна ў сваіх мроях.

Затое каратканогія жанчыны больш упэўнена стаяць на зямлі, больш працавітыя, рэальна глядзяць на рэчы і хутчэй дасягаюць посьпеху.

Зрэшты, важная ня толькі форма ног, але і ўменьне іх прад'яўляць! Кажуць, шчасьлівыя ў каханьні дзяўчаты маюць лёгкую й вытанчаную хаду, а закамплексаваныя і няўпэўненыя – ходзяць наскамі ўнутр.

Што ж прыводзіць да такой разнастайнасьці ў гэтай частцы цела? Можна назваць дзьве прычыны: біялягічную (чым надзяліла прырода) і сацыяльную (як сама дзяўчына можа паўплываць на форму ног). Зь біялёгіяй прасьцей: што бацькі перадалі ў спадчыну, тым і будзеш карыстацца. А калі ня хочаш – можаш паспрабаваць "дамовіцца" з прыродай праз трэнажэрныя залі ці нават праз хірургічнае ўмяшальніцтва!

Ногі розных народаў – розныя. Тыя народнасьці, якія пражываюць у цёплым і вільготным клімаце, побач з экватарам, маюць ногі карацейшыя, чымся жыхары пустэчы й мерна халодных зонаў. Найдаўжэйшыя ногі – у мурынак. Мурынка таго самага росту, што й беласкурая жанчына, будзе мець на 2-3 сантымэтры даўжэйшыя ногі! Акрамя таго, у нэгрыцянкі даўжэйшая верхняя частка нагі, дый лытка – даўгая, добра акрэсьленая. Як не ўзгадаць выдатныя спартовыя дасягненьні, дзе лідэры ў большасьці выпадкаў – прадстаўнікі чорнае расы? Асабліва яны дамінуюць у тых відах спорту, дзе даўжыня ног уплывае на вынік непасрэдна – у скоках і бегу.

Паўночныя народнасьці таксама маюць высокія дасягненьні на ніве прыгажосьці жаночых ног, але эўрапейскія дзявочыя канцавіны не такія вытанчаныя. Хаця некаторыя беларускія хлапцы тут могуць паспрачацца...

Жанчыны Міжземнамор'я такіх даўгіх ног ня маюць. Затое цягліцы ў іх больш рэльефныя, а ступы невялікія. Менш за ўсё пашчасьціла азіяткам і прадстаўніцам усходніх народнасьцяў – іхныя канцавіны больш кароткія, і форма ног не такая прыгожая. Можа, таму і шлюбы ў іх больш трывалыя, бо навакол няма на што спакусіцца.

Адмыслоўцы выдзяляюць 14 парамэтраў прыгажосьці ножак:

1. У верхняй траціне сьцягно мусіць быць больш тонкім у параўнаньні зь ніжэйшаю часткай. Гэта дадае ножкам рэльефнасьці.
2. Самае шырокае месца сьцягна – у першай верхняй траціне.
3. Профіль сьцягна мусіць крыху выступаць наперад і паступова паглыбляцца ў кірунку калена (камплімэнт можа гучаць так: "У Вас цудоўны профіль сьцягна!").
4. Калена мусіць быць на аднолькавай адлегласьці ад верхняй і ніжняй часткі нагі, дакладна пасярэдзіне паміж верхняй часткай сьцягна і ступой.
5. У расслабленым стане пярэдняя частка ("фасад") калена мусіць мець форму дзіцячага тварыка з чолкай, шчочкамі і ямачкамі для вачэй і падбародзьдзя (вось вам нагода ўпершыню ў жыцьці разгледзець як сьлед сваё ўласнае калена).
6. Месца пад каленам павінна быць такім жа тонкім, як і глізна.
7. Ідэальная лытка мусіць быць тонкай (але не схуднелай ад інтэрнацкае ежы).
8. Збоку калена не павінна мець аніякіх выступаў (інакш ногі, заплятаючыся, будуць чапляцца адна за адну альбо за іншыя прадмэты).
9. З тылу калена мусіць мець паглыбленьне. Некаторыя аматары лічаць, што гэта адно з самых прывабных месцаў жаночага цела.
10. Цягліцы не павінны быць занадта разьвітымі, каб не парушаць гармоніі і ліній нагі. Незразумелым застаецца, што прыгожага людзі бачаць у нагах аматарак бодыбілдынгу (мне ў гэтым слове настойліва й выразна чуецца спалучэньне "дыбіл"), а таксама спартовак, што займаюцца цяжкой атлетыкай.
11. Ахілава сухажыліна мусіць быць тонкай і мець аднолькавыя правільныя паглыбленьні з абодвух бакоў. Яна завяршае зваротны бок лыткі (і, бывае, надзвычай ладна завяршае!).
12. Пятка мусіць быць акруглай і не павінна надта выступаць. Яна ня ёсьць у дзяўчат слабым месцам, але, наадварот, моцным у сваёй прыцягальнасьці.
13. Ідэальная нага мусіць мець увагнутую, падоўжаную і тонкую ступу. Пальцы мусяць ляжаць вольна (можна нафарбаваць пазногці – мужчыны рэагуюць належным чынам).
14. У ідэале ногі маюць чатыры "вакенцы". Трэба толькі паставіць ногі разам, і ў пэўных месцах яны будуць датыкацца, утвараючы такім чынам "вакенцы":

а) над каленам у ніжняй частцы сьцягна (самае вузкае "вакенца");
б) пад каленам;
в) над глізнай;
г) між палюхамі і глізнай.

Такі вось аналіз. А сынтэз – тое, што мы бачым на вуліцах, і ён не абавязкова адпавядае норме, але, бывае, такі звабны...

Некаторыя мужчыны – усё-ткі прымітыўныя істоты. Ну дзе вы знойдзеце дзяўчыну, якая б пагадзілася пабрацца шлюбам толькі таму, што ў ейнага каханка прыгожыя ногі? А мужчыны гэта робяць, і ня так рэдка, як можа падацца. Але гэта толькі некаторыя. Большасьць усё ж ткі, на шчасьце, думае.

Для дзяўчыны ножкі – ня толькі транспарт, але й раскоша, якою яна пасьпяхова карыстаецца. Але прыгожыя ногі, як мы ведаем, вымагаюць шмат чаго: парфумы, касмэтыкі, сукенак, кадылякаў і г.д. На сёньняшні дзень пекныя дзявочыя ножкі – вельмі дарагая раскоша. Для мужчынаў.




*Маленькі слоўнік тэрмінаў, якія ўжываюцца ў апісаньні "ідэальнае ножкі":*

***глізна*** *(націск на першы склад) – самая тонкая частка нагі над ступой.*
***ступа*** *– тое, на чым ходзяць.*
***сьцягно*** *– верхняя частка нагі ад калена да...*
***лытка*** *(націск на першы склад),* ***галёнка*** *– ніжняя частка нагі ад калена да ступы.*
***цягліца*** *(націск на першы слог) – тое, што любяць накачваць аматары бодыбілдынгу.* ■





5 Зак. 1948

*Натальля Лазука*
*(малюнкі аўтара)*

# Галерэі.

## Якія яны ёсьць

*Галерэі – назва мастацкіх музэяў, большасьцю з сабраньнем карцін. Напрыклад: Нацыянальная галерэя, Карцінная галерэя.*

Так пазначаны гэты тэрмін у слоўніку. Але ж у наш бурлівы час нават самыя ўстойлівыя панняткі зьмяняюцца.

У сучасным разуменьні галерэя – гэта месца канцэнтрацыі прадмэтаў мастацтва, іх адбору, клясыфікацыі, экспанаваньня, прапаганды – а значыць, і продажу. Канцэнтрацыя пераменлівая, разнастайная па аўтарах, колькасьці твораў і іх спэцыфіцы.

Галерэя – месца, праз якое зьдзяйсняецца культурная палітыка грамадзтва. Гэта складаны інструмэнт рэгуляцыі ўзаемадзеяньня крытыкаў і мастакоў, прастора іх асабістай рэалізацыі.

Заходняя галерэйная палітыка кіруецца, збольшага, густам спажыўца і залежнай ад яго выгадай у продажы. Галерэя выступае адным з элемэнтаў складанага апарату «раскруткі» мастака. Працэс гэты немагчымы без удзелу мастацтвазнаўцы, крытыка ці хаця б галерэіста – бязь зьнешняга дыктату, які б уплываў на грамадзкі густ і не даваў скаціцца да нізкапробнасьці й кічу. Сваім аўтарытэтам арт-крытык (ён жа арт-архіватар) пацьвярджае правільнасьць накірункаў разьвіцьця мастацкага працэсу. Зьяўленьне на выставе крытыка з прэстыжнага выданьня ўскосна сьведчыць пра высокі статус мастака і забясьпечвае ягоны далейшы камэрцыйны рост. Што ж датычыцца таленту – гэта больш складанае пытаньне, і шмат каго з мастакоў яно ўвогуле не цікавіць.

Першапачаткова роля музэяў абмяжоўвалася захаваньнем і экспазыцыяй (а таксама вывучэньнем) прадмэтаў мінуўшчыны, гістарычных каштоўнасьцяў нацыі. У наш час побач з пастаяннымі экспазыцыямі ў музэях усё часьцей зьяўляюцца часовыя – з фондаў ці новых паступленьняў. Магчымы й абмен экспазыцыямі – скажам, міжнародны.




Паступова гістарычна закладзенае адрозьненьне паміж музэем і галерэяй сьцёрлася. Адзін з прыкладаў такога пераходу – знакамітая галерэя Ўфіцы, што захоўвае ў сваіх фондах выключна рэнэсансныя і барочныя працы. Тут жа можна назваць і Траццякоўскую галерэю, якая хутчэй нагадвае музэй гісторыі рускага мастацтва.

І ўсё ж музэі да сёньняшняга часу захоўваюць ролю "вартаўнікоў" уваходу ў Залю Гісторыі, хоць часам яны і арганізуюць навамодныя ангажаваныя выставы.

У галерэі таксама можа быць разьмешчаная пастаянная экспазыцыя, аднак апошняя заўсёды адрозьніваецца больш сучасным, а да таго ж – камэрцыйным гучаньнем і адлюстроўвае спэцыфіку самой галерэі (фатаграфія, мастацтва нонканфармізму, авангард, соцарт і г.д.).

Беларуская сыстэма прадстаўленьня прадмэтаў мастацтва рэцыпіенту выглядае наступным чынам: музэй - галерэя - салён. На Захадзе апошніх не існуе, там камэрцыйнымі справамі займаюцца прыватныя галерэі – з вызначаным месцам у гіерархіі продажаў і кліентуры, са сваёй спэцыфікай...

Магчымыя наступныя клясыфікацыі галерэяў:

1. Паводле характару экспанаваных прадмэтаў.

2. Паводле мастацкіх напрамкаў: рэалізм, акадэмізм, авангард...

3. Па відах: фатаграфія, графіка і жывапіс, скульптура, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва.

Беларускія галерэі ў большасьці сваёй шыракапрофільныя: гэта дазваляе экспанаваць які заўгодна мастацкі аб'ект (іншымі словамі, надае мабільнасьці), а таму забясьпечвае камэрцыйную рэнтабэльнасьць і посьпех у гледачоў.

Што датычыцца менскіх галерэяў, тут патрэбнае невялічкае ўдакладненьне. Справа ў тым, што камэрцыйнай дзейнасьцю на Беларусі займаюцца (за невялікім выключэньнем) салёны. Дзяржаўныя галерэі, у адрозьненьне ад прыватных установаў, такімі правамі не валодаюць.

Ствараецца даволі камічная сытуацыя, калі тыя самыя дзяржаўныя галерэі, абмежаваныя ва ўласнай фінансавай дзейнасьці, займаюцца звычайным "разьвешваньнем" разнастайных працаў. Прычым аб прапагандзе – у друку, на радыё, на тэлебачаньні – размова ідзе рэдка. Найперш гэта не патрэбна самой галерэі – няма ніякага стымулу: рэкляма не адбіваецца ні на колькасьці дзяржаўных датацыяў, ні на рэйтынгу. Таму ў дзейнасьці звыш пляну няма зацікаўленасьці. Культурная палітыка ўвогуле не прасочваецца – існуе залатая анархія, у якую часьцяком вяртаюцца нашыя ж мастакі з Захаду, дасыта наласаваўшыся дэспатычным дыктатам тамтэйшых галерэяў.

Камэрцыйныя галерэі зарабляюць грошы шляхам аддаваньня мастакам экспаноўных пляцовак для часовай арэнды, а да таго ж сяктак перабіваюцца продажам узятых на рэалізацыю працаў. І ўсё гэта – праз адсутнасьць загранізаванага і маштабнага арт-рынку.

Роля мастака ва ўсіх гэтых працэсах увогуле містычная. Атрымаць хаця б нейкі прыбытак немагчыма. Хіба што, набраўшы пэўную колькасьць выставаў, увайсьці ў Саюз мастакоў РБ? Альбо заняцца ўласным прамоўшнам – праз публікацыі знаёмых крытыкаў і журналістаў ды шокавыя сюжэты на тэлебачаньні, зробленыя, зноў-ткі, з дапамогай знаёмых, – які не нясе ніякай камэрцыйнай нагрузкі? Агульная вядомасьць, здабытая такім чынам, можа дапамагчы, але вельмі апасродкавана.




З усяго вышэйпералічанага варта адзначыць наступнае: няма ў Менску галерэі, пасьля выставы ў якой мастак можа ляжаць на канапе, даваць прыгожым журналісткам інтэрвію і спакойна атрымліваць зробленыя ўласным талентам грошы.

І ўсё ж мастацкі працэс зьдзяйсняецца, нягледзячы на ўсю ягоную абсурднасьць (а можа, дзякуючы вялікай долі энтузіязму). Канкурэнцыі сярод галерэй няма (гл. вышэйзначаныя ўмовы), няма імкненьня да вышэйшага статусу. Але ж мы ўсё-ткі паспрабуем скласьці своеасаблівы рэйтынг. Паводле асабістага меркаваньня аўтара, вылучаюцца некалькі менскіх галерэй, якія найлепшым чынам адпавядаюць мінімальным патрабаваньням экспанаваньня:

1. Музэй сучаснага выяўленчага мастацтва.
2. Нацыянальны мастацкі музэй.
3. Галерэя «Мастацтва».
4. Мастацкая галерэя па вуліцы Сурганава, 16.

Гэтыя галерэі раю ня толькі наведвальнікам, але й мастакам. Таму што ў іх:

1. Экспазыцыйная прастора невялікая.

Гэта зручна для гледача – меншы шанец сустрэць нейкі «рарытэт» з савецкіх часоў ці прадукт сучаснага саладжавага салёну. Дый мастакоў болей вабіць камэрнасьць – ня ўсе маюць гэтулькі працаў, каб "пакрыць" такую плошчу, як, скажам, Палац мастацтваў.




2. Нэўтральны фон залі (падлогі, столі, сьцен).

Канешне, шыкоўна зайсьці ў галерэю, дзе сьцены расьпісаныя ў палосы ці каляровую клетку. Але да такога інтэр'еру пасуе ня ўсякая праца. Таму ў той жа галерэі "PS", мяркую, вы не сустрэнеце жывапісных палотнаў.



Да таго ж, не заўсёды прыемна чуць за сабой неадступны цокат абцасаў – хай і вельмі прыгожай дзяўчыны – па бэтоннай падлозе. Ідэальны варыянт – нэўтральны, прыглушаны колер сьцен і столі, абітая лямцам ці іншым гукапаглынальным матэрыялам цёмная падлога.

3. Удалае асьвятленьне.

Вельмі непрыемна, калі ў рамах са шклом адбіваецца сьвятло ад лямпаў ці з вокнаў альбо калі праца месьціцца ў нейкім цьмяным закуточку і толькі што са сьвечкай магчыма яе разгледзець. У гэтым пляне мяне ўразіў Музэй японскага мастацтва ў Кракаве, дзе агульная заля была напалову ў змроку (але не да крытычнага роўню), а кожны стэнд падсьвечваўся кропкавымі сьвяцільнікамі. Стваралася пэўная ілюзія адзіноты, і гэта спрыяла прыемнаму прагляду.




4. Граматная разьвеска прац і дакладны этыкетаж.

Што ўвогуле раздражняе, дык гэта адсутнасьць подпісаў пад працамі. У менскіх галерэях з гэтым наагул кепска. Пра дакладнасьць вопісу – аўтар, назва, год выкананьня, тэхніка, памер і іншыя падрабязнасьці – я ўжо й не кажу. Найбольш нараканьняў тут выклікае Палац мастацтваў. Згадайма тую ж выставу "Беларусь – трэцяму тысячагодзьдзю": памылковы пераклад назваў, блытаніна зь імёнамі аўтараў, з тэхнікамі, адсутнасьць даты выкананьня і г.д. Ці яшчэ прыклад – вісіць адна-адзінюткая праца, а надпіс сьведчыць, што гэта трыптых. Куды ж усё астатняе падзелася?



5. Зручнае разьмяшчэньне галерэі (ля магістралі альбо ў цэнтры гораду).

Увогуле, глядач (калі гэта не адмысловец, які, як той альпініст, палезе за рарытэтам і ў горы) – даволі леная істота. Дый нашмат прыемней зайсьці ў галерэйку на шляху дадому. Цягнуцца ў раён Лошыцы ці нават на вуліцу Каліноўскага (галерэя "Вільнюс") часу не стае (тым больш што адкрыцьцё выставаў звычайна адбываецца а 16-17-й гадзіне), дый проста нязручна.




6. Хуткая зьмена экспазыцыі.

Застою ў нашых галерэях амаль не бывае: шмат ахвотных выставіцца. Адных толькі сябраў Саюзу мастакоў РБ колькі! А дадайце сюды ж Акадэмію выяўленчага мастацтва, суполку "Пагоня", фотаклюб "Мінск", Саюз дызайнэраў Беларусі ды іншыя мастацкія аб'яднаньні!




Нягледзячы на шматлікія перашкоды, у Менску адчыняюцца новыя галерэі і працягваюць фукцыянаваць старыя. Маю надзею, што ўсёткі мастацкі працэс зь цягам часу наладзіцца, зьявіцца паўнаварты рынак, і ўсё гэта разам паўплывае на якасьць галерэяў. Маю надзею...







## Невялікі сьпіс менскіх галерэяў і музэяў

1. Музэй сучаснага выяўленчага мастацтва (пр-т Ф. Скарыны, 47).
Працуе: 10.00-18.00. Выходныя: нядзеля, панядзелак.

2. Музэй Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў (пр-т Ф. Скарыны, 81а).
Працуе: 10.00-13.00 і 14.00-17.00. Выходныя: нядзеля, панядзелак.

3. Нацыянальны мастацкі музэй Рэспублікі Беларусь (вул. Леніна, 20).
Працуе: 11.00-19.00. Выходны: аўторак.

4. Рэспубліканская мастацкая галерэя (Палац мастацтваў) (вул. Казлова, 3).
Працуе: 10.30-18.00. Выходны: панядзелак.

5. Галерэя "Мастацтва" Саюзу мастакоў РБ (пр-т Ф. Скарыны, 12).
Працуе: 10.00-20.00 (да 18.00 – у суботу). Выходны: нядзеля.

6. Галерэя "Вільнюс" (вул. Каліноўскага, 55, бібліятэка №18).
Працуе: 10.00-18.00. Выходныя: нядзеля, панядзелак.

7. "Мастацкая галерэя" (вул. Сурганава, 16).
Працуе: 10.00-20.00. Выходны: нядзеля.

8. Музэй сучаснай беларускай скульптуры імя А. Бембеля (вул. Коласа, 29а).
Працуе: 10.00-18.00. Без выходных.

9. Мастацкі цэнтар "ЖылБел" (вул. Багдановіча, 9а).
Працуе: 10.00-19.00. Без выходных.

10. Нацыянальны музэй гісторыі і культуры (вул. Маркса, 12).
Працуе: 11.00-18.00. Выходны: серада.

11. Музэй гісторыі беларускай літаратуры (вул. Багдановіча, 15).
Працуе: 9.00-20.00. Без выходных.

12. Нацыянальная бібліятэка Рэспублікі Беларусь (вул. Чырвонаармейская, 9).
Працуе: 10.00-21.00 (да 18.00 – у суботу, нядзелю). Без выходных.

13. Галерэя сучаснага мастацтва "PS" (пр-т Машэрава, 51).
Працуе: 10.00-14.00 і 15.00-19.00. Выходныя: нядзеля, панядзелак.

14. Дом Дружбы (вул. Захарава, 28).
Працуе: 10.00-18.00. Выходны: нядзеля.

15. Галерэя візуальных мастацтваў "Nova" (вул. В. Харужай, 16, цэнтральная бібліятэка імя Я. Купалы).
Працуе: 10.00-18.00. Выходныя: аўторак, субота, нядзеля. ■

Іна Цьвяткова



# Месца пад сонцам моды й стылю

*У адной маёй сяброўкі пад кожную сукню – свой колер валасоў. Яна нагадвае мне сьветлафор.*

Эмінэм

Некалі я, як кажуць, з чыста спартовага інтарэсу пачала апытваць сваіх знаёмцаў з мэтай вызначыць, які сэнс яны ўкладаюць у слова “стылёвы”. *І чаго толькі не пачула ў адказ! Аказваецца, гэта й дэндзі ў элегантным строі з прылізанай гелем прычоскай, і падлетак у ботах на трактарнай падэшве ды зь неабмежаванай колькасьцю кішэняў, і звычайны чалавек у акуратных джынсах і ва ўтульным швэдры. Адзін мой калега адпавёў, што самым стылёвым у сьвеце чалавекам лічыць свайго дзеда-пастуха, які мае бараду да пупа, ніколі не вымае з зубоў люлькі, а з пугай разьвітваецца хіба што ўначы, і да таго ж апранае на пасту цёмныя акуляры (ну чым не ZZ-Top на адпачынку?). Карацей, шыльду “стылёвы” можна пры жаданьні прычапіць, бадай, да кожнага. І гэта будзе справядліва, калі чалавек надае хаця б мінімум увагі таму, што ён бачыць у люстэрку.*

Стылёвым мы завем чалавека за ягоны зьнешні выгляд, за тое, як ён апранаецца. На першы погляд падаецца, што з гэткім жа посьпехам можна ўжыць тут і слова “модны”. Але, як ні дзіўна, паняткі гэтыя далёка не ўзаемазамяняльныя.



Мода, паводле тлумачальнага слоўніка, азначае паноўныя ў пэўным грамадзкім асяродку ды ў пэўны час густы й погляды на вопратку, прадмэты побыту і г.д. Панятак гэты характарызуе кароткачасовыя і, збольшага, павярхоўныя зьмены ў вышэйзазначаных сфэрах. Слова “мода” датычыцца пераважна масавай культуры, больш за тое – культуры аднадзённай. Цяжка не пагадзіцца з заўвагаю Како Шанэль: *“Мода – гэта тое, што выходзіць з моды”.*

Аднак, маючы ўласнае пачуцьцё стылю й хоць кроплю густу, можна заўжды зэхоўваць выразна акрэсьленую індывідуальнасьць.

Навукоўцы, што, як заўсёды, знаходзяцца ў авангардзе прагрэсу, стварылі цэлую тыпалёгію “спажыўцоў моды”. У залежнасьці ад стаўленьня да модных павеваў вылучаюць *моднікаў-экспэрымэнтатараў (Modnicus Experimentatorus), моднікаў-лідэраў (Modnicus Liderus), моднікаў памяркоўных (Modnicus Pamiarkounicus), скептыкаў (Scepticus Nyticus) і адсталых (Modnicus Tormaz).*



*Экспэрымэнтатар* любіць рызыку, эпатаж і пры гэтым не баіцца падацца сьмешным. Ён лічыць вопратку найважнейшым сродкам самавыражэньня і не шкадуе на свой гардэроб ні часу, ні грошай. Галоўная перавага экспэрымэнтатара – ва ўменьні ўлавіць намёк моды і пры гэтым не пераймаць “ад балды” фантазіі мадэльераў. Сапраўды, хай тыя кутур'е займаюцца сваім мастацтвам, а мы шчэ паглядзім, што зь іхніх ідэяў варта пераняць. Распаўсюджаны прыём экспэрымэнтатара – выкарыстаньне якогасьці прадмэта вопраткі не па прызначэньні. Так што калі вы раптам сустрэнеце ў банку чалавека з панчохай на галаве – не пужайцеся, гэта звычайны *Modnicus Experimentatorus*. Ну, а аднымі зь першых прадстаўнікоў – а дакладней, прадстаўніц – гэтага тыпу моднікаў можна сьмела лічыць тых жанчын, што ўпершыню наважыліся апрануць штаны.

Самаацэнка *лідэра* залежыць у значнай ступені ад таго, у што ён апрануты. У яго надоўга псуецца настрой пасьля сустрэчы з кім-небудзь, чый убор надта падобны да ягонага (скажам, яшчэ нехта носіць на галаве панчоху). Заўважаць захопленыя позіркі мінакоў для лідэра – адно задавальненьне. Строі лідэраў не мазоляць вочы на кожным кроку, аднак абавязкова становяцца гітом наступнага сэзону. Лідэр ставіцца да моды вельмі сур'ёзна.

Быць *памяркоўным* – значыць не губляць зашмат часу на ўласны гардэроб, але й не ператварацца ў нешта аморфнае ў спартовых штанах і белых шкарпэтках. Памяркоўны моднік зважае, хто ў што апрануты, і робіць для сябе адпаведныя высновы (вядома, гэта ня значыць, што трэба хадзіць, вылапіўшы вачы на ўсіх мінакоў – проста ў памяркоўнага ворганы зроку, як кажуць, на сваім месцы). Ён любіць паходы па крамах, але пры гэтым прыносіць дадому ў гаманцы хаця б рэшту. Напэўна, *моднік памяркоўны* – самы распаўсюджаны тып. Прыглядацца да іншых, старанна адбіраць тое, што табе пасуе, – карысная ў наш час якасьць. Магчыма, прадуманы строй мала каго ўразіць, але надоўга застанецца ў памяці ўдалае спалучэньне ягоных элемэнтаў.



*Скептыкам* жа назавуць таго, каго раздражняюць грамадзяначкі, запакаваныя ва ўсё вузкае пры поўнай адсутнасьці стану ды бюсту (ва ўзьнёслым разуменьні гэтых слоў). Скептык зь вялікім задавальненьнем апране пяцігадовае даўніны пінжак, а ў краме наўрад ці зірне на рэч нялюбага колеру. І гэта зусім не загана! Апранацца крыху аднастайна, але затое заўжды з густам, хаваць свае недахопы й падкрэсьліваць вартасьці – ухвальныя якасьці як для жанок, так і для чалавекаў.

А вось *адсталым* заўжды цікавей разглядаць бабуліны фотаздымкі, чымся свае ўласныя. Такіх людзей часьцяком наведвае думка, што яны нарадзіліся ня ў тым стагодзьдзі. Зь іншага боку, у палеазойскую эру яны таксама ня хочуць. Карацей, як той казаў, з мухамі ў носе. Гуляць па крамах яны пагодзяцца хіба што пад руляю кулямёта. Да таго ж Modnicus Tormaz зазвычай схільныя да настальгіі й сэнтымэнтаў.

Такім чынам, мараль тае байкі, што сёньня я табе, любы чытач, распавяла, наступная: хочаш быць стылёвым і лавіць на сабе позіркі прадстаўнікоў процілеглага (ці свайго, каму як даспадобы) полу – навучыся самастойна рабіць свой выбар, а зрэдзьчасу нават пляваць на моду ды ўсялякія там стандарты. Памятай, што вопратка й манэры мусяць быць выражэньнем і працягам тваёй унутранае сутнасьці. Інакш можа атрымацца, як у той показцы: “Сынок, ну зірні на сябе, які ж ты лох? – Мама, хлопцы гавораць, канкрэ-э-этны!”.



■

Юля Шэдзянкова

# Фрызьбі

*Што азначае гэтае слова, ведаюць у асноўным толькі тыя, хто пабываў за мяжой. У астатніх жа яно, як правіла, не выклікае аніякіх асацыяцыяў. Ня ведала й я, што гэта за зьвер такі, аж покуль у Беларусь не прыехалі Георгі Фёдараў, старшыня Фэдэрацыі фрызьбі Расеі, і Пол, прадстаўнік асацыацыі фрызьбі са Швэцыі.*

Пачнем з таго, што фрызьбі – гэта гульня. Як яна зьявілася? У 1947 годзе ў адной з амэрыканскіх кандытарскіх школаў студэнты, ня маючы чым заняцца падчас перапынку, пачалі кідаць адзін аднаму вечкі ад каструляў. Гэта пабачыў канструктар Фрэд Морысан, і ўжо ў 1948 годзе ён зрабіў з плястыкату першую лятаючую талерку. Гэтая вынаходка адразу сталася дужа папулярнай, бо форма талеркі нагадвала НЛА, а амэрыканцы ў той час літаральні трызьнілі іншаплянэтнікамі. Першыя спаборніцтвы адбыліся ў 1954 годзе ў адным з унівэрсытэтаў.

Сёньня ў Фэдэрацыі фрызьбі афіцыйна зарэгістраваныя 66 дзяржаваў сьвету. Як і кожная гульня, фрызьбі мае сваіх герояў і свае дасягненьні. Напрыклад, рэкорд у далечыні кідку сярод мужчын складае 207 м, і 137 м – сярод жанчын. Самая вялікая хуткасьць палёту талеркі – 160 км/гадз. Два чалавекі паміж сабой безь перапынку кідалі дыск 126 гадзін (хацелася б зірнуць на іх пасьля гэтага!).

Існуе ажно дзевяць афіцыйных відаў фрызьбі: зь іх два камандныя і сем індывідуальных.

Сярод камандных відаў найбольш распаўсюджаны альтэрнатыўны фрызьбі, які зьявіўся ў 1967 годзе. Гуляюць у яго дзьве каманды па 7 чалавек (у памяшканьні – па 5), прычым без судзьдзі. Загадзя вызначаецца час гульні альбо колькасьць ачкоў, неабходная для перамогі.

Гуляць можна ў спартовай залі альбо на вуліцы (скажам, на пляжы). Дзеля гэтага поле падзяляецца на тры часткі. Дзьве малыя, прыкладна па 6 мэтраў, – гэта ўласныя тэрыторыі камандаў. Паміж імі адмяраецца 28 мэтраў "нэўтральнае паласы". Шырыня пляцоўкі – 20 мэтраў.

У пачатку гульні, а таксама пасьля кожнае перамены ў ліку гульцы становяцца ўздоўж лініі тае зоны, якую яны абараняюць. Каманда, што перамагла ў жэраб'ёўцы альбо здабыла ачко, кідае талерку іншай камандзе. Бал залічваецца тады, калі нехта з гульцоў перакіне дыск партнэру па камандзе, які знаходзіцца ў чужой зоне, а таксама ў тым выпадку, калі гулец, злавіўшы дыск у палёце, здолее прызямліцца на "варожай" тэрыторыі.

Пасы партнэрам можна рабіць у любым кірунку. Гульцы могуць рухацца па ўсім полі, кожны зь іх мае права лавіць дыск. Але, злавіўшы, мусіць спыніцца – з талеркай у руках дазваляецца зрабіць самае большае тры крокі. Фрызьбі – гульня бескантактавая: выбіваць дыск з рук забараняецца. Лепшы від абароны – "прыкрываць" гульца іншае каманды, замінаючы яму зрабіць пас.

Можа, адразу гэтая забава падасца вам задужа простай і павольнай. Але з уласнага досьведу я ведаю, што фізычна непадрыхтаваны чалавек пратрымаецца ня болей за 30 хвілін – далей проста ня хопіць сілы.

Калі гульня вас зацікавіла, то па больш падрабязную інфармацыю і па прапановы зьвяртайцеся непасрэдна да аўтара гэтых радкоў – *juliashed@tut.by*.

■







Алена Арцімовіч

# Падарожжа ў «горад пяці тысяч храмаў»

Радха й Крышна

## Месца, куды нельга купіць квіток

Ёсьць на мапе сьвету маленькая, амаль непрыкметная кропка. Многія нават і не падазраюць пра яе існаваньне, але ўсё ж большасьць марыць трапіць туды, у гэтае незвычайнае месца, мару мільёнаў людзей. Гэты "рай на зямлі" называецца Ўрындаванам.

Некалькі нумароў таму я распавядала, як выглядае сучасны горад «пяці тысяч храмаў». Але каб сапраўды зразумець, чаму столькі людзей імкнецца сюды, трэба ўбачыць Урындаван старажытны. А гэта больш чым 5000-гадовая гісторыя, сьведкі якой – храмы і ўзвышшы, паданьні і легенды... А яшчэ – гэта нязломная вера мясцовых жыхароў у прыгожага і юнага Бога.

Індусы кажуць, што да Ўрындавану нельга купіць квіток, бо гэтае месца – праяўленьне духоўнага сьвету на Зямлі.

Кожны ўспрымае Ўрындаван па-свойму: для вернікаў гэта амбасада духоўнага сьвету на Зямлі, для цікаўных турыстаў – вельмі прыгожае месца, для этнолягаў – скарбніца ведычнай гісторыі й мудрасьці. А чым зьяўляецца Ўрындаван для нас? Мабыць, вялікай казкай са шчасьлівым працягам. Праходзячы па вузкіх вулках Урындавану, заходзячы ў старажытныя храмы і купаючыся ў рацэ Ямуне, выразна адчуваеш подых вечнасьці. Дакранаючыся да шурпатых камянёў маставых і будынкаў і ўдыхаючы водар экзатычных кветак, спрабуючы пазьбегнуць назойлівых малпаў, пагрыбляесься ў сьвет, дзе час спыніўся і ў паветры заўсёды лунае рэха гукаў далёкай флейты Крышны й звонкага сьмеху гаспадарыні Ўрындавану – Шрымаці Радхарані.

## Ці ведаеце вы,

што многія сучасныя гульні былі вядомыя ўжо ў старажытнай Індыі? Шмат тысяч год таму таксама існавалі бег навыперадкі й гульня зь мячом, плаваньне й скокі ў вышыню... Але пра ўсё па парадку.

Згодна зь ведычнымі пісаньнямі, недзе далёка-далёка ў духоўным сьвеце на плянэце Галока жыве прыгожы пастушок. Ён апрануты ў адзежу жоўтага колеру, на грудзях – залатое ўпрыгожаньне з каштоўным каменем Каўстубха. Але гэта ня проста каштоўны камень – ён выконвае самыя сьветлыя і патаемныя жаданьні. На пастушковых руках і нагах – залатыя бранзалеты з аздобаю, а на шыі – гірлянда з самых прыгожых кветак, вакол якіх роем кружацца чмялі. У чорных бліскучых валасах – паўлінава пяро, вочы – як пялёсткі лотаса, а ўсьмешка вабіць усіх сваёй добразычлівасьцю. І заўсёды Ён у руках трымае флейту, гукі якой даюць асалоду ўсім, хто іх пачуе. Ён вечна юны і вечна прывабны. Завуць гэтага пастушка Крышнам, а ведычныя пісаньні называюць яго Вярхоўнай Асобай Бога. Ён можа выканаць любое пажаданьне, абараніць праведных людзей і пакараць грэшнікаў. Але самае прыгожае – гэта яго гульні. Дарэчы, пад гэтае вызна-

▶

чэньне трапляе ня толькі тое, што мы звыкла лічым гульнямі, а нагул усё ягонае жыцьцё.Трэба дадаць, што гульні Крышны нельга зразумець простаму чалавеку, іх трэба проста прыняць на веру. Часам здаецца, што яны парадаксальныя. Напрыклад, адносіны Крышны і ягоных сябровак – дзяўчат-пастушак: нягледзячы на тое, што яны амаль увесь час ці сварацца, ці спрачаюцца, ведычныя пісаньні сьцьвярджаюць, што няма ў сьвеце больш узнёслых адносінаў, як паміж імі. Калі ж вы ўсё-ткі паспрабуеце разабрацца, што да чаго, памятайце: вялікія вучоныя й філёзафы як старажытнай, так і сучаснай Індыі аддаюць увесь свой час вывучэньню ведычных пісаньняў і наўрад ці прыйшлі да нейкай пэўнай высновы стасоўна гульняў (чытай – жыцьця) Крышны і яго сяброў ды сябровак. Таму хутчэй за ўсё вы прыйдзеце да знакамітай сакратаўскай фразы: «Я ведаю, што я нічога ня ведаю». Прапаную кінуць усялякія там філязофскія роздумы і проста чытаць ды атрымліваць асалоду. Што ж, ласкава просім вас у

## самую праўдзівую казку на Зямлі!

5000 год назад Крышна прыйшоў на Зямлю як сын пастуха Нанды Махараджа і яго жонкі Яшоды.

Маленькім Ён бегаў па зямлі Ўрындавану, забягаў у суседзкія хаты, разьбіваў гаршкі зь ёгуртам ды маслам і раздаваў усё гэта сваім сябрам – малпам. Ён так адкормліваў іх, што яны ўжо не маглі глядзець на ежу і адварочваліся. Тады Крышна злаваўся і бег скардзіцца да маці: "Глядзі, якія вы робіце жахлівыя масла й ёгурт! Нават малпы ня хочуць іх есьці..."

Калі Крышна крыху падрос, ён разам са сваімі пагодкамі, хлопчыкамі-пастушкамі, пайшоў пасьвіць цялят. Покуль цяляты спакойна разбрыдаліся па лузе, Крышна й яго сябры гулялі. Толькі замест гумовага мячыка яны ганялі па лузе какосавы гарэх, ладзілі бег навыперадкі за самымі прыгожымі кветкамі, а пасьля рабілі з гэтых кветак гірлянду і вешалі на шыю пераможцы...


Крышна-пастушок

Яшчэ ў Крышны быў вельмі добры сябар – брахман Мадхумангал, які надта любіў слодычы і таму быў таўсты й непаваротлівы. Крышна прымушаў яго лезьці на самую высокую пальму, з якой, не ўтрымаўшыся, Мадхумангал падаў і, падскокваючы, як той мячык, цёр зашыбленае месца. Беднаму Мадхумангалу заўсёды перападала больш за астатніх...

Аднойчы Крышна й Мадхумангал вырашылі браць падатак з *гопі* (тых самых дзяўчат-пастушак), калі тыя несьлі на продаж ёгурт ды масла. Гопі гэта ня вельмі спадабалася, і яны вырашылі раз і назаўжды правучыць двух сяброў, даўшы ім як сьлед на гарэхі. Што ж, так і атрымалася. Але Крышна порсьценька зьбег ад дзяўчат, а вось таўстун-Мадхумангал атрымаў за дваіх. Гопі ня толькі пабілі яго, але й падвесілі за валасы на дрэва. Трэніраваныя, відаць, былі дзяўчаты... Абліваючыся сьлязьмі, Мадхумангал клікаў Крышну, і той ня мог кінуць свайго сябра ў такім нязручным становішчы, а таму прыбег і даў ратунку. Жыхары Ўрындавану сьвята вераць, што і цяпер, калі паклікаць Крышну, той абавязкова прыйдзе на дапамогу.

...Надыходзіў вечар. Сонейка сядала за пагорак Гавардхан. Крышна браў сваю флейту і пачынаў іграць. Музыка была такой цудоўнай, так заварожвала, што нават травінка баялася паварушыцца, каб не парушыць гармонію мэлёдыі. Усё сьціхала, а цяляты хуценька зьбягаліся да свайго ўлюбёнага пастушка. Так, пад гукі флейты, усе вярталіся дадому. Але на гэтым гульні





Крышны не скончаліся, таму што наперадзе была ноч...

Над лесам Урындавану ўзнімаўся месяц, мякка асьвятляючы паляну, дзе пачынаўся цудоўны танец Крышны са сваімі сяброўкамі – *раса-ліла*. Лічыцца, што гэта самы прыгожы танец, бо ён прыйшоў на Зямлю з духоўнага сьвету.

Але самае незвычайнае з усіх гульняў Крышны – гэта ягоныя любоўныя адносіны са сваёй вечнай каханай Шрымаці Радхарані. Штоноч яны крадком зьбягаюць з дому, каб сустрэцца адно з адным. Гэтыя адносіны вельмі чыстыя і ўзвышаныя, бяз прымесу бруду й зьнявагі. Расстаньне толькі ўзмацняе іх. Сэрца Радхарані заўсёды занятае думкамі пра Крышну, і, зьвяртаючыся да яго, яна кажа: "Кожнае імгненьне безь Цябе здаецца мне вечнасьцю. Сьлёзы коцяцца з маіх вачэй, калі я не магу бачыць Цябе..."

Калі Крышну споўнілася 16 год, ён пакінуў Урындаван, каб больш ніколі сюды не вяртацца. Але духоўная атмасфэра ягоных гульняў захавалася і да цяперашняга часу, і кожны, хто пабываў тут, можа гэта адчуць...

## Гавардхан

Пагорак Гавардхан – гэта асаблівае месца паломніцтва недалёка ад Урындавану. Лічыцца, што пагорак прыйшоў з духоўнага сьвету. З тым, як ён апынуўся каля Ўрындавану, зьвязаная цэлая гісторыя. Спачатку пагорак месьціўся ў Гімалаях. Але неяк вялікі сьвяты-адыходнік Пуласцья Муні ўбачыў Гавардхан, і той яму вельмі спадабаўся. Мудрэц папрасіў яго, каб ён вандраваў разам зь ім. Пагорак пагадзіўся, але з умовай, што ён ніколі не павінен дакранацца да зямлі. Адыходнік сваімі чарамі ўзняў пагорак у паветра. Так яны вандравалі вельмі доўга. Аднойчы, пралятаючы над Урындаванам, мудрэц стаміўся і вырашыў адпачыць. Спусьціўшыся на зямлю, ён паставіў пагорак, і той болей не захацеў сысьці зь месца. Разьюшаны Пуласцья Муні пракляў Гавардхан: цяпер штогод пагорак будзе памяншацца на адно гарчычнае зярнятка. Усё гэта адбылося шмат тысячагодзьдзяў таму, і пагорак сапраўды шмат паменшаў. Але ўсё роўна мільёны паломнікаў са ўсіх канцоў сьвету імкнуцца абысьці вакол яго й пакланіцца цудоўнаму пагорку. З Гавардханам зьвязана яшчэ адна незвычайная гісторыя, якая адбылася 5000 год таму...


Пагорак Гавардхан

Штогод Нанда Махарадж, галоўны сярод пастухоў Урындавану, і йншыя пастухі праводзілі цырымонію пакланеньня богу дажджу Індру, каб той пасылаў добрыя дажджы і трава расла вялікай і сакавітай. Але Крышна сказаў бацьку: "Дарагі Нанда Махарадж, чаму вы пакланяецеся Індру? На самой справе добры ўраджай атрымліваецца толькі дзякуючы пладароднай зямлі Гавардхану. Гэта яму трэба пакланяцца..." Нанда Махарадж паслухаў свайго сына і зрабіў вялікае сьвята ў гонар Гавардхану. Пагорку прапанавалі шмат слодычаў і йншых смачных страў, усе сьпявалі й танчылі. А недзе ўверсе Індра вельмі разьюшыўся і вырашыў затапіць Урындаван і ўсіх яго жыхароў, наслаўшы моцны дождж. Што было рабіць бедным жыхарам? Яны зьвярнуліся па дапамогу да Крышны. І той абараніў сваіх адданых: ён падняў пагорак на мезенцы левай рукі й трымаў яго сем дзён і начэй, пакуль дождж не спыніўся. Усе жыхары схаваліся пад пагоркам, а сам Гавардхан распаліўся начырвона, і ўся вада, якая трапляла на яго, тут жа выпарвалася. Так патоп не зрабіў ніякай шкоды, а Індра ў чарговы раз зразумеў, што з сапраўдным Богам жарты дрэнныя...

Конкурс!

## Таямніца пад сямю Водамі

Недалёк ад Урындавану ёсьць незвычайнае возера Кусум-саровара. Зь ім таксама зьвязаная старажытная легенда. Згодна зь ёй, у возера няма дна, і калі нехта вырашыць пакупацца ў ім, ён павінен быць упэўнены ў сваіх сілах. Альбо ў сваёй праведнасьці, таму што... Калі ў возеры патоне праведны чалавек, то ягоная душа па паветраным калідоры трапіць на райскія плянэты, а калі патоне грэшнік – душа, адпаведна, пойдзе напрасткі ў пекла. Так што мерыць глыбіню возера мы вам ня раім: для гэтага трэба быць ці выдатным плаўцом, ці вялікім сьвятым.

Ня менш загадкавае й возера Радха-кунда – возера самой Шрымаці Радхарані, гаспадыні Ўрындавану. Лічыцца, што яно ўтварылася са сьлёз, якія Радхарані выплакала, сумуючы па сваім каханым. Але купацца ў ім таксама небясьпечна: на вас могуць напасьці вялізныя чарапахі. Яны ня кожнага пусьцяць у сьвятую кунду – толькі тых, хто сапраўды верыць і мае добрае сэрца. Вось вам і энэрэмаўскае Чарапашае возера...

## Эпілёг

На самой справе пра Ўрындаван вельмі цяжка пісаць. Шмат у ім яшчэ цікавага й незвычайнага. Але лепш адзін раз убачыць, чым сто разоў пачуць. Таму зычу вам абавязкова пабываць там...

Ты малады і поўны энэргіі.
Твая галава аж ломіцца ад сьвежых ідэяў.
Ты шмат чаго ведаеш і багата ўмееш...

## Пакажы, што ты можаш!

"Студэнцкая думка" абвяшчае конкурс на лепшы допіс у рэдакцыю. Конкурс будзе праводзіцца па трох намінацыях:

Намінацыя першая – **лепшы артыкул.** Тэмы для напісаньня артыкулаў:

• *Моладзевыя тусоўкі й групоўкі (панкі, гіпі, байкеры, ролеры, скінгэды...).*

• *Асьцярожна, інтэрнат! Карысныя парады па выжываньні ў месцах масавага згуртаваньня студэнтаў. Праблемы інтэрнатаў: цеснага, канфлікты, п'янства і г.д.*

• *Графіці на вулках нашых гарадоў (а таксама народная творчасьць – надпісы на сьценах, платах, прыпынках). Хто й чаму гэтым займаецца?*

• *Жыцьцё звонку і ўнутры: прыхаваныя псыхалягічныя матывы нашых паводзінаў.*

• *Самы прыкольны студэнт вашае ВНУ.*

Намінацыя другая – **лепшы малюнак.** Распрацуй і дашлі нам маляваны вобраз беларускага студэнта. Уключы ўяўленьне! Лепшыя малюнкі – як, вядома, і лепшыя артыкулы – будуць друкавацца ў наступных нумарох "CD".

**Намінацыя трэцяя** – показкі й сьмешкі са студэнцкага й моладзевага жыцьця.

Кожныя тры месяцы прыдзірлівае журы будзе бяз жалю адсейваць усіх недарэкаў. Але тыя, хто выйдзе з кіпцюроў монстраў-судзьдзяў жывымі, могуць нічога ўжо не баяцца ў гэтым жыцьці.

Ім будуць нададзеныя ганаровыя тытулы **супэрхлопцаў і супэрдзяўчат**!

Пра іх будуць марыць **асобы процілеглага полу**!

Ім будуць **зайздросьціць** аднакурсьнікі!

**Пераможцы** конкурсу атрымаюць унікальную магчымасьць супрацоўнічаць са "Студэнцкай думкай". Да таго ж, іх чакаюць **шыкоўныя прызы ад "CD" і BMAgroup!!!**

Паспрабуй! У цябе абавязкова атрымаецца!





Рэцэпты

падрыхтавала Натальля Казлоўская

# Шаноўныя чытачы!

*Мы працягваем нашую кулінарную рубрыку, у якой прапануем вам рэцэпты з ведычнай кулінарыі. Асабліва хацелася б зьвярнуць вашую ўвагу на* **спэцыі**. *Гэта карані, кара і насеньне цалебных расьлінаў, якія выкарыстоўваюцца альбо цалкам, альбо ў здрабнёным выглядзе. Мастацтва прымяненьня спэцыяў для наданьня ежы своеасаблівага смаку й карысных уласьцівасьцяў узыходзіць да Аюрведы й Артхашастры, сьвятоўных трактатаў пра здароўе.*

## Закускі

### Пакоры (гародніна, абсмажаная ў цесьце)

Пакоры можна прыгатаваць практычна зь любое гародніны. Нарэжце яе на кавалачкі аднолькавага памеру, каб усе яны былі гатовыя адначасова. Баклажаны, кабачкі, бульбу, гарбузы, моркву можна нарэзаць скрылёчкамі ці дробнымі кубікамі, а квяцістую капусту й браколі падзяліць на суквецьці. Качанкі брусэльскае капусты, спаржу, складзеныя лісты шпінату можна выкарыстоўваць цалкам. Пакоры падаюць асобна, з соўсам, альбо як адну са страваў сьвяточнага мэню.

***2/3 кубка (150 г) мукі гарохавай ці жытняй***
***250 мл кіслага малака ці вады***
***2 ч. л. солі***
***1/2 ч. л. соды***
***1/4 ч. л. змолатага чырвонага перцу***
***1/4 ч. л. змолатага чорнага перцу***
***1/2 ч. л. змолатай каляндры***
***1/2 ч. л. куркумы***
***1/4 ч. л. асафэтыды***
***675 г нарэзанае гародніны***
***топленае масла ці алей для смажаньня ў фрытуры***

Дадайце ў муку спэцыі, соль і соду. Паволі ўлівайце кіслае малако і ўзьбівайце венчыкам, покуль не атрымаеце аднароднае цеста. Яно павінна быць дастаткова густое, каб абляпляць абмакнутую ў яго гародніну. Нарэжце ўсю гародніну загадзя. Буйныя суквецьці квяцістае капусты, мабыць, давядзецца абдаць кіпнем. Пастаўце топленае масла ці алей на сярэдні агонь. Алей мусіць быць нагрэты да такой тэмпэратуры, каб кропля цеста ў ім адразу ўсплывала й сіпела. Пакладзіце ў цеста жменьку нарэзанае гародніны. Пастарайцеся, каб яна была абмазаная цестам раўнамерна. Кожны від гародніны трэба смажыць асобна. Вымайце кавалачкі гародніны зь цеста адзін за адным і кладзіце іх у кіпень-алей так, каб пакрыць усю ягоную паверхню. Смажце некалькі хвілінаў, покуль пакоры ня стануць крамянымі й хрусткімі. Тады вымайце й дайце алею сьцячы.

***Час прыгатаваньня – 20 хв.***

# Слодычы

## Кхір
### (салодкі рыс)

У Індыі кажуць, што без салодкага рысу – ня пір. Таму гаспадыня перад прыёмам гасьцей часьцяком не кладзецца спаць дапазна, гатуючы гэтую страву. Існуе безьліч спосабаў прыгатаваньня салодкага рысу. Абраны намі рэцэпт ёсьць традыцыйным і найбольш распаўсюджаным.

*1/3 кубка (50 г) белага рысу (зерне мусіць быць кароткае ці сярэдняе)*
*10 кубкаў (2,4 л) малака*
*1/2 ч. л. змолатага кардамону*
*2 лаўровыя лісты*
*1/2 кубка (100 г) цукру*
*2 ст. л. нарэзанага скрылёчкамі міндалю, зьлёгку абсмажанага (па жаданьні)*

Прамыйце рыс і, адкінуўшы на друшляк, дайце яму падсохнуць. У высокім рондалі, куды зьмяшчаецца самае малое двайны аб'ём малака, закіпяціце малако. Адрэгулюйце агонь так, каб яно ўвесь час кіпела і ўздымалася, але не "зьбягала". Каб рыс гатаваўся хутчэй, першыя 15 хвілін варыце яго бяз накрыўкі. Увесь час мяшайце драўлянай лыжкай, каб малако не падгарэла. Пакладзіце ў малако рыс і лаўровы ліст. Гатуйце на сярэднім агні, памешваючы, яшчэ 20 хв., пакуль рыс цалкам не разварыцца. Да гэтага часу аб'ём малака мусіць зьменшыцца на траціну. Памешваючы, дадайце цукар, міндаль і размолаты кардамон. Варыце яшчэ 5 хв., потым здыміце з агню. Салодкі рыс, калі яго здымаюць з агню, павінен быць ня надта густы: ён згусьцее, калі астыне. Перад падачай добра астудзіце – чым халаднейшы рыс, тым ён смачнейшы.

Каб надаць рысу іншы смак і духмянасьць, дадайце заміж кардамону чайную лыжку ружавае вады і колькі жменяў змолатага шафрану альбо пакладзіце ў гатовы рыс маленькую жменьку натуральнае камфары.

*Час прыгатаваньня – 1 гадз. 15 хв.*
*Час астываньня – 2 гадз.*

# Прынцып абыякавасьці

*Сяргей Кароль*

*Разважаючы пра наступны артыкул для нашай эканамічнай сэрыі, я перачытаў займальную кнігу "Эканаміст у адпачынку". Аўтар, прафэсар Стывэн Ліндзбург, уяўляецца гэткім разумным дэядзькам, які, разваліўшыся ў фатэлі з цыгарай, разгадвае загадкі паводзінаў людзей і тлумачыць наступствы разнастайных палітычных ініцыятываў. Адзін з разьдзелаў кнігі гэтак ашаламляльна пасуе да сытуацыі ў Беларусі і гэтак лягічна працягвае наш папярэдні матэрыял, што я вырашыў не стамляць вас сваімі прыдумкамі, а творча пераказаць гэты разьдзел – вядома, з адпаведнаю спасылкай.*

Дзе б вы хацелі жыць: у Вашынгтоне ці ў горадзе Доўвэр, штат Дэлявэр? Вашынгтон – сталіца сучаснага сьвету, цэнтар палітычнага й культурнага жыцьця. Бурлівая плынь начнога Джорджтаўну,





бліскучыя рэстарацыі, моднае адзеньне, цікавыя суразмоўцы... У Доўвэры нічога гэтага няма. Гараджане вылучаюцца поўнай адсутнасьцю густу й абмежаванымі патрэбамі. З рэстарацыяў – толькі МакДональдз, а канцэрты вы пачуеце хіба што па радыё. Але ж у Доўвэры можна купіць дом па цане вашынгтонскае двухпакаёвае кватэры. Там зусім бясьпечна і безьліч добрых школаў, чаго няма ў Вашынгтоне. Калі спажыўцы маюць прыкладна аднолькавыя густы й патрабаваньні да жылплошчы – ім наагул усё адно, дзе жыць. Парушце гэты балянс, зрабіўшы Доўвэр гэткім жа цікавым, – і туды пацягнуцца вашынгтонцы. Цэны на жытло вырастуць, павялічыцца злачыннасьць і пагоршацца школы. Па меры ад'езду вашынгтонцаў у Доўвэр цэны ў Вашынгтоне ўпадуць, і людзі пацягнуцца назад. У выніку нічога ня зьменіцца. **Эканамісты называюць гэты фэномэн Прынцыпам абыякавасьці.**

Пры ўмове падабенства густаў і вольнага абмену таварамі й паслугамі гэты прынцып дзейнічае безадмоўна і распаўсюджваецца на ўсе сфэры эканомікі, ад адпачынку да фінансавае сыстэмы. Выбар паміж паркам Чалюскінцаў і кінатэатрам "Кастрычнік", напрыклад, падпарадкоўваецца Прынцыпу абыякавасьці. У добрае надвор'е ўсе ідуць у парк, там утвараецца чарга, што робіць кіно, дзе чаргі няма, звабнаю альтэрнатывай. Тая самая сытуацыя і з выбарам паміж кар'ерамі праграмоўцы і сантэхніка, калі ня браць пад увагу, што праграмэрам стаць значна цяжэй, а яшчэ цяжэй падтрымліваць кваліфікацыю. Абыякавыя мы й перад выбарам свайго бізнэсу. Што выгадней – вытворчасьць зброі ці жуйкі? Няма розьніцы: калі вытворчасьць танкаў прыносіць лішак прыбытку, то чаму б вытворцам жуйкі не пераключыцца на танкі? Не павінна быць розьніцы і паміж ліцэнзіяй таксіста і ліцэнзіяй прыватнага лекара. Пагуляйце ў гэтую забаўку зь сябрамі – хто прывядзе болей прыкладаў абыякавасьці.

"Сумны нейкі сьвет атрымліваецца, – скажаце вы. – Да таго ж, гэта ўсё няпраўда". Насамрэч усе ведаюць, што праграмоўцам быць значна лепей, чымся сантэхнікам, а гандаль зброяй выгаднейшы за жуйкавы бізнэс. Дый лекары (на Захадзе) атрымліваюць болей за таксістаў. Але, па-першае, скуль вы ведаеце? Рэальны эканамічны кошт вымяраецца не грашыма, але ўпушчанай магчымасьцю. Калі вы робіцеся праграмоўцам, вы губляеце болей шанцаў весела бавіць час, чымся калі набываеце ліцэнзію на вытворчасьць жуйкі. Параўнаньне рэальных коштаў павінна было б прывесьці ўсё да агульнага знамяніка. Хаця – па-другое – магчыма, вы й маеце рацыю. Статыстычна даведзена, што аплата працы праграмоўцаў дыспрапарцыянальна вышэйшая за кошт усіх упушчаных магчымасьцяў. Прыбытак ад ліцэнзіі лекара ў ЗША таксама рэальна вышэйшы за прыбытак ад мэдальёна таксіста. Гэта так званы "эканамічны прыбытак". Ён вынікае тады, калі нашае дапушчэньне пра роўнасьць густаў і пра свабодны перасоў рэсурсаў парушаецца.

Пераканацца ў тым, што прынцып абыякавасьці мае самы нечаканы эфэкт, калі гэтага правіла не прытрымлівацца, дапаможа нам наступны прыклад. Фэрмэры краінаў Эўропы складаюць усяго некалькі адсоткаў насельніцтва. Нягледзячы на сваю нешматлікасьць, яны, тым ня менш, у стане выбіваць са сваіх урадаў практычна любыя саступкі: абарону ад імпарту, субсыдыі, бескаштоўныя крэдыты! Гаспадары гатэляў чамусьці ня могуць гэтага зрабіць. А ўсё надзвычай проста: для пабудовы гатэлю падыдзе любая зямля. І калі гатэлям нададуць прывілеі, яны пачнуць расьці, як грыбы па дажджы. Прынцып спрацуе, цэны ўпадуць. Субсыдыі выпарацца. А вось зямлі, прыдатнай для сельскае гаспадаркі, болей зрабіцца ня можа. Гэты рэсурс абмежаваны, і тыя, каму ён належыць, у стане атрымаць эканамічны прыбытак.

**Такім чынам, прынцып другі: выйграць ва ўмовах абыякавасьці можа толькі ўладальнік абмежаванага рэсурсу альбо чалавек з унікальнымі, адрознымі ад масавых, густамі й жаданьнямі.**

Напрыклад, рост попыту на актораў тым жа акторам не дапамагае: усё болей людзей навучаецца гэтай пачэснай прафэсіі, і расцэнкі на акторскую працу падаюць. Але вось попыт на Леанарда Ды Капрыё дапамагае Леанарда Ды Капрыё, паколькі ён толькі адзін. Леанарда валодае абмежаваным рэсурсам. Ніхто ня ў стане зрабіцца ім, і расцэнкі на ягоную працу могуць расьці колькі заўгодна. Той, каму падабаецца стаяць у чарзе (вар'ят!), выйграе ад добрага надвор'я – ён ідзе ў парк і стаіць сабе, колькі хоча. Праца праграмоўцы больш прыбытковая, чымся праца сантэхніка, калі зважаць на тое, што попыт на інфармацыйныя тэхналёгіі разьвіваецца ў некалькі разоў хутчэй, чымся сыстэма падрыхтоўкі праграмоўцаў. Той, каму пашчасьціла стаць праграмэрам у сярэдзіне 90-х, валодае абмежаваным рэсурсам – сваёй кваліфікацыяй. Сытуацыя зьменіцца, як толькі наладзіцца сыстэма хуткай падрыхтоўкі кадраў. Дапамагае й унікальны густ праграмоўцаў, а дакладней, адсутнасьць якіх-небудзь іншых густаў і жаданьняў. Гэтыя дзівакі гатовыя сядзець за кампутарам увесь час: што для іншых праца, для іх адпачынак. Таму праграмоўцам быць двойчы прыбыткова. Вытворцы зброі таксама маюць абмежаваны рэсурс – сваю сувязь зь дзяржавай. Зброя – тавар надзвычайны, прадаецца й купляецца толькі ў палітычных мэтах, і

пакупнік, як правіла, адзін і той жа. Пакупнік гэты, урад, клапаціцца пра цану меней, чымся пра сакрэтнасьць распрацовак. Таму ўрады найчасьцей аддаюць ваенным прадпрыемствам манапольныя правы ў абмен на цесны кантакт і гарантыю сакрэтнасьці. Зрабіўшыся манапалістам, вытворца зброі мае звышпрыбытак. Намогам незалежных прадпрымальнікаў увайсьці ў гэты бізнэс хутчэй за ўсё будуць процістаяць улады, і прынцып абыякавасьці не спрацуе. А вось ліцэнзія лекара ў ЗША больш выгодная за мэдальён таксіста выключна з-за асаблівасьцяў заканадаўства. Дазвол на таксаваньне можа купіць хто заўгодна. А вось колькасьць лекараў абмежаваная дзяржавай, якая выдае канчатковую колькасьць ліцэнзіяў на год. Кангрэс упэўнены, што гэтую адказную прафэсію трэба кантраляваць. Тым самым ён стварае абмежаваны рэсурс, уладальнікі якога атрымліваюць звышпрыбытак.

У сваім імкненьні да "чэснасьці" мы ўвесь час парушаем гэты, здавалася б, відавочны закон. У лепшым выпадку гэтым мы не дасягаем нічога – ні справядлівасьці, ні эфэктыўнасьці. У горшым – ствараем "мёртвую страту". Стывэн Ліндзбург прыводзіць колькі элегантных мадэляў.

**Мадэль першая. Рэсурсы неабмежаваныя, а густы аднолькавыя**

У Амэрыцы існуе завядзёнка даваць афіцыянтам на гарбату. Шляхетныя людзі задаліся пытаньнем: чаму толькі афіцыянтам? Гэта ж так нячэсна! Што ж, дамо на гарбату й мыйнікам посуду. Што адбываецца? Прыбіральшчыкі становяцца мыйнікамі посуду дзеля падачак, што выклікае натуральнае падзеньне іх заробкаў з-за прытоку новых жадаючых. Ці выйграюць гаспадары рэстарацыі? Зусім не – цана на абед мусіць упасьці роўна на суму гасьцінца мыйніку. Калі ж яна не ўпадзе, усе пабачаць, што рэстарацыйны бізнэс прыносіць нечаканы прыбытак, і пачнуць адчыняць рэстарацыі, покуль цана не зьнізіцца. У выніку палітычных захадаў, заклiканых зрабіць грамадзтва больш справядлівым, у грамадзтве тым не зьмянілася нічога.

**Мадэль другая. Адзін з рэсурсаў абмежаваны**

Уявім сабе два гарады – Чыставічы й Ванішчаў. Жыхары Чыставічаў маюць чыстае паветра, але плацяць пяцьсот даляраў на месяц за кватэру. У Ванішчаве кватэра каштуе роўна дзьвесьце, але там на ўскраіне стаіць вытворчае аб'яднаньне "Воньхім", атручваючы атмасфэру лаўсанавым дымам. Любіце чыстае паветра – плаціце 500. Адкладаеце на "Мэрсэдэс" – жывіце побач з ВА "Воньхім". Як спажывўцу, вам усё роўна.

Але вось, пад уплывам актывістых мясцовае экалягічнае арганізацыі, мэр Ванішчаву выдае Дэкрэт №10 "Аб чыстым паветры", які патрабуе ад ВА ўсталяваць ачышчальнікі. Гэкнуўшы з гора каньячку, дырэктар адшуквае сродкі й падпарадкоўваецца ўказу. Вынік – паветра ў Ванішчаве ня горай за чыставіцкае. Горад губляе сваю адрозную рысу. Арэндавая плата расьце да 500$ у месяц. Хто выйграў? Анiхто! Тыя, каму падабаецца чыстае паветра, і без таго маглі жыць у Чыставічах. Тыя, хто зьбіраў на "Мэрс", разьвітваюцца са сваёй руждовай марай. Горай жыць ім ня стала, але й палёгкі няма. ВА "Воньхім", безумоўна, прайграла. Прадпрыемства панесла страту, роўную кошту ачышчальнікаў. Каму ж дастанецца гэтая сума? Шукайце ўладальнікаў унікальнага рэсурсу. У Ванішчаве такімі ёсьць домаўладальнікі – запас кватэрных дамоў абмежаваны. Арэнда вырасла, і гаспадары дамоў апынуліся ў абсалютным выйгрышы! Пагадзіцеся, гэтага наступства экалягічнага закону вы меней за ўсё чакалі. Мала хто з эколягаў хацеў дапамагчы домаўладальнікам. Але такі вынік іхніх намогаў – законы эканомікі няўмольныя.

У жыцьці ўсё складаней, чымся ў схематычнай мадэлі. Але мадэлі дапамагаюць схапіць галоўнае, адкінуўшы непатрэбныя дэталі. І гэта зусім ня значыць, што яны адарваныя ад рэчаіснасьці. Вось вам, калі ласка, рэальны прыклад. Родны горад Ліндзбурга Вільмінгтан, штат Дэлявэр, быў нечым накшталт Доўвэру – да тае пары, пакуль уладны штата не прынялі закон пра стварэньне беспадаткавай эканамічнай зоны. Сюды пацягнуліся карпарацыі й банкі, за імі – маладыя спэцыялісты з высокімі заробкамі. Зьявіліся рэстарацыі й тэатры, крамы й тэнісныя корты. Цэны на маёмасьць вырасьлі ўтрая літаральна за год. Старажылы, агламошаныя гэткім цудам, сталі прадаваць свае дамкі па цане, што раней не магла ім прысьніцца нават у самым салодкім сьне. У іх быў унікальны рэсурс – запас дамоў у цэнтры гораду заўсёды абмежаваны – і ўнікальны густ – пражыўшы ўсё жыцьцё ў нудоце, яны не цанілі новы лад жыцьця і былі гатовыя пераехаць у сумны Доўвэр.

**Case Study. Эканаміст за прыватную ўласнасьць**

Нарэшце, яшчэ адна мадэль. Каб зрабіць адпачынак грамадзянаў больш разнастайным, мэрыя Вільмінгтану вырашыла пабудаваць вялікі "Палац Штату". Будыніна ўражвае: мармуровыя фантаны, хакейныя палі, вялікая заля й бясплатны ўваход. Выдаткаваўшы мільён даляраў, атрыманых у свой час ад падаткаплатнікаў, мэр пераразаў стужку. Ці выйгралі жыхары гораду? Раней яны бавілі час у Парку Заваёўнікаў Кландайку, дзе няма атракцыёнаў, затое процьма вольнага месца ў цені дрэваў. Парк усім даволі-ткі паднадакучыў. Цяпер ёсьць Палац, але там заўжды чарга. Чарга – плата за разнастайнасьць. Парк прыеўся, але там ёсьць месца. Жыхары ня выйгралі нічога, а вось мэрыя выдаткавала сродкі падаткаплатнікаў. Прычым выдаткавала ўпустую, таму што якасьць адпачынку, з-за Прынцыпу абыякавасьці, не зьмянілася зусім! Чыстая эканамічная страта. Мёртвая.

Уявім цяпер, што мэр гэта зразумеў і вырашыў падараваць правы на Палац свайму стрыечнаму брату за яголныя "грамадзянскія заслугі". Зглядзеўшы чаргу, той адразу ўводзіць плату за ўваход. Чарга тут жа зьмяншаецца. Вілмінгтонцам паранейшаму ўсё роўна – чаргі няма, але трэба плаціць. Выйграў уладальнік унікальнага рэсурсу – брат мэра. З гледзішча эканомікі, гэта амаральная мера лепей за бясплатны Палац – яна процістаіць эканамічнай страце. Выдаткаваныя сродкі гарадзкога бюджэту ня зьніклі зусім – яны перайшлі ў кішэню новага гаспадара Палаца.

Падвядзем вынікі. Чэсна ці нячэсна быў зьменены гаспадар Палаца – няважна з пункту гледжаньня адпачынку грамадзянаў. Будаўніцтва Палаца не паўплывала на іхні дабрабыт: дадатковы выбар забаў азначае дадатковыя выдаткі ці дадатковы час у чарзе. Перадача Палаца ў прыватныя рукі карысная для нацыі ў цэлым, таму што замест мёртвай страты хоць нехта атрымаў эканамічны выйгрыш. Аднак гэта нячэсна з гледзішча маралі – было б лепей, каб мэрыя сама брала з гараджанаў грошы на карысьць гораду. Высnова ж эканаміста – калі ўнікальны рэсурс не належыць нікому, эканоміка нічога не выйграе альбо наагул цярпіць абсалютную страту. Таму эканамісты й падтрымліваюць інстытут прыватнае ўласнасьці. Калі маёмасьць належыць дзяржаве – а значыць, нікому, – то ў лепшым выпадку нiхто не атрымае й прыбытку. У горшым – цярпіць нацыянальны дабрабыт. Што й адбываецца, у асабліва буйных памерах, на Беларусі.

■







# Бойка з нарка-баронамі

*Калі вам па прачытаньні артыкулу пра Прынцып абыякавасьці стала ўсё адно, як бавіць свой вольны час, паспрабуйце адгадаць гэтую вось загадку ад Сяргея Караля.* ***Адказы дасылайце ў рэдакцыю "СД": 220030, г.Менск, п/с 90.***

***Супрацоўнікі Аддзелу па барацьбе з наркотыкамі фэдэральнае паліцыі ЗША перахапілі ў Карыбскім моры пяць хуткасных лодак, што належалі калюмбійскім наркабаронам. У выніку кароткага ўзброенага сутыкненьня лодкі былі захопленыя, наркотыкі сканфіскаваныя. Было зьнішчана недзе каля 30 тонаў какаіну. У інтэрвію Сі-Эн-Эн кіраўнік Аддзелу палкоўнік Флайлоў адзначыў, што апэрацыя па зьнішчэньні беспрэцэдэнтнае колькасьці наркотыкаў прынесла вялікую карысьць амэрыканскай нацыі. Хто ж рэальна выйграў ад апэрацыі ў Карыбскім моры?***

**Аўтараў першых трох правільных і абгрунтаваных адказаў чакаюць ПРЫЗЫ!!!**

■

*Вітаўт Мартыненка*

## Сяржук Сокалаў–Воюш, "Беларускія сюжэты" Limas, 1999




Пакуль БМАgroup рыхтуе да выданьня CD-зборнік папулярнага беларускага барда С. Сокалава-Воюша ў сваёй грунтоўнай сэрыі "Беларускі музычны архіў", выдавецкая суполка "Limas" пасьпела (хоць і чарапашыным крокам) апярэдзіць калегаў, сумесна зь якімі зусім нядаўна яна выдавала CD-альбомы гурта "Ліцьвіны".

Афіцыйны рэліз праекту "Беларускія сюжэты", распачатага ў 1999 годзе, адбыўся толькі сёлета ў красавіку: была праведзеная крапатлівая рэстаўрацыя мноства архіўных запісаў, іхні рэмайстэрынг і ачыстка ад шумоў. Затое які вынік! Паўтары гадзіны найчысьцейшых запісаў і славутых песень Сержука ("Нефармальны беларус", "Мы да вас са школы", "Песьні касынэраў ", "З крыламі сьвіньня"), і нават такіх, якія ў свой час не пасьпелі шырока разысьціся ў народзе ("Нача", "Вяршыні", "Спадар А.А.", "Рыцарская баляда", "Усё было", "Я вас прапускаю без чаргі", "Хакейная шайба").

Самае прыемнае, што ўвесь гэты скарб па-за дыхтоўнай рэжысэрскай працай (У. Бярбераў) прываблівае і ня менш уразьлівай мастацкай аздобай (К. Елісееў). Зграбны буклецік утрымлівае працы мастакоў П. Сергіевіча і А. Цыркунова, архіўныя ды сучасныя фотаздымкі і проста стракаціць бліскучай каляровай паліграфіяй.

Зрэшты, ёсьць у выданьні адзін недахоп, які, аднак, толькі залагодзіць чакальнікаў працягу сэрыі "Беларускі музычны архіў", распачатай кампакт-дыскам Міхася Забэйды-Суміцкага ў мінулым годзе. Справа ў тым, што ў ёмістую праграму разнаітых бардаўскіх гітоў "Беларускія сюжэты" ўвайшлі і знакамітыя гістарычныя цыклі Сержука Сокалава-Воюша і эфэктныя сатырыка-гумарыстычныя нумары, і тонкая лірыка. Але няма самага славутага гіта, які, акрамя самога барда, сьпявалі і Данчык, і эстрадныя нашыя зоркі, і заўсёднікі турыстычных тусовак, – "Аксамітны вечар". Затое (разгарну тут сакрэты БМА) песьня абавязкова будзе на архіўнай CD-сэрыі, як і шмат вельмі рэдкіх позьніх запісаў, зробленых акурат напярэдадні эміграцыі Сержука ў ЗША ("Дзевяць грамаў сьвінцу", "Несьмяротны народ" і г.д.).

Так што 90 МС-хвілінаў зусім не павінны бянтэжыць фанатаў творчасьці Сокалава-Воюша, якія зьбіраюцца дачакацца кампакт-дыску: суцэльных паўтораў ня будзе, бо знакаміты бард пакінуў і нямала песьняў, і нямала іхніх вэрсіяў.

А які ж настрой ствараюць гэтыя "Беларускія сюжэты"? З чым іх можна параўнаць?

Хтосьці будзе шукаць падабенства да славутых бардаў кшталту літоўца В. Кярнагіса, амэрыканца Б. Дылана, паляка Э. Стахуры, расейца У. Высоцкага. Зрэшты, гэты зборнік нават утрымлівае пару беларускіх перакладаў Высоцкага ("Усё было", "Вяршыні"). Але мне асабіста прыходзіць у галаву параўнаньне з "Трыма чарапахамі" ды з праектам Алеся Сушы "Я нарадзіўся тут". І не сьпяшайцеся дзівавацца, проста маю крытэры, падказаныя самім жыцьцём.

Неяк завітаў да мяне ў госьці па калекцыянэрскіх справах філяфаністы Валодзя Н. – чалавек з тых, хто на сваё роднае (кнігі, кампакты, газэты) глядзіць як на нейкую дзівацкую экзотыку. Ён быў упэўнены, што нармальнаму чалавеку, які ня чуў усіх гэтых энэрэмаў ды крываў, яно ўсё гэта і не патрэбна. Але дзеля цікавасьці слухануў "Тры чарапахі", "Я нарадзіўся тут" – і захварэў. "Ух, як бліскуча, – кажа. – Такое паслухаеш, дык і сапраўды за шаблю схопісься з гарачкі!".

Дык вось, распачатую якраз тады сваю беларускую аўдыёкалекцыю ён нядаўна працягнуў гэтымі самымі "Беларускімі сюжэтамі". Ад якіх таксама хочацца ўзяцца за шаблю. ■




*Андрусь Белавокі*

## Bez Bileta, "На Неба" BMAgroup, 2001

За няпоўныя два гады гэты гурт дасягнуў таго, чаго многія не дасягаюць ніколі. Яны сталі "Адкрыцьцём году" на апошняй Рок-каранацыі яшчэ да выхаду свайго першага альбому. Яны ўжо двойчы ўдзельнічалі ў нефармальным, але грандыёзным фэстывалі ў Італіі з красамоўнай назвай "The Spirit of Woodstock" і ўжо маюць некалькі запрашэньняў на эўрапейскія фэсты на гэты год. Яны – жаданыя госьці на большасьці менскіх канцэртаў і зьбіраюць на тыя канцэрты поўныя залі. Яны – адныя зь нямногіх, хто амаль не выступае бясплатна, бо лічаць, што музыкам таксама трэба есьці. І ў той жа час яны ладзяць бясплатную прэзэнтацыю свайго альбому "На Неба". Бо яны – БЕЗЬ БІЛЕТА.

Нягледзячы на тое, што альбом "На Неба" ёсьць першым рэлізам гурта (калі не лічыць сынгла з гэтага ж альбому гадовай даўнасьці), ён пакуль зьяўляецца лепшым з таго, што было прэзэнтавана беларускімі музыкамі ў 2001 годзе. Калі справы пойдуць гэтак і далей, то "На Неба" рызыкуе стаць "Альбомам году". І гэта не перабольшаньне.

Першае, што кідаецца ў вочы, – умоўны падзел альбому на дзьве роўныя па часе часткі (па двух баках касэты): "Мая краіна Беларусь"(па назову тытульнай песьні) – беларускамоўная, і "Песни полярных летчиков" – расейскамоўная. Гэты падзел – і, у прыватнасьці, нібыта "непатрэбная" "расейская" частка – ужо выклікалі пытаньні ў слухачоў і крытыкаў. Аднак можна паглядзець на гэтую рэч зь іншага боку: вы маеце магчымасьць атрымаць два альбомы ў адным. Самі БЕЗЬ БІЛЕТА лічаць, што музыка ў іх бясспрэчна беларуская. ▶

Сідзічка

Ну, можа быць, яшчэ наднацыянальная. Але ніяк не расейская. А зьяўленьне расейскамоўных тэкстаў музыкі тлумачаць тым, што яны – "прадукт свайго часу", людзі, якія, як большасьць з нас, выхоўваліся ў расейскамоўных сем'ях, і поўны пераход на беларускую мову для іх ня вяльмі просты. Але, як кажуць удзельнікі гурта, гэта хутчэй пытаньне часу.

Што тычыцца непасрэдна музыкі, то БЕЗЬ БІЛЕТА граюць безаналягавы для Беларусі эйсыд-фольк зь бязьмежнай палітрай уплываў. Іх стыль – гэта выключна стыль БЕЗЬ БІЛЕТА, пазнавальны й непаўторны. Беларускамоўны бок касэты мае пераважна народныя тэксты. Песьню, адзінымі словамі якой ёсьць "Мая краіна Беларусь", ведаюць і любяць амаль усе, хто наведваў менскія рок-канцэрты, і яе напісаньне – беспамылковы для гурта крок да ўсебеларускай папулярнасьці.

Вельмі незвычайна й цікава слухаецца рэп-фолькавае "Прывітаньне". Яшчэ адзін стрэл наўпрост у дзясятку – "Сьвяча" на верш Максіма Багдановіча, сумны і як нішто прыгожы твор. А "Пад ёлкай" – таксама на народныя словы – была напісаная гуртом адной зь першых, чаго ніяк ня скажаш пры яе праслухоўваньні: яна выдатна глядзіцца ў кантэксьце альбому, што сьведчыць пра пасьлядоўнасьць у разьвіцьці гурта.

Што тычыцца другой часткі, "Песни полярных лётчиков", якая, як лічыць адзін паважаны музычны крытык, "ня мае адносінаў да Беларусі" (на што БЕЗЬ БІЛЕТА дастойна адказалі, што гэта проста вобраз, які яны стварылі), то па музыцы гэта тыя ж БЕЗЬ БІЛЕТА з эйсідфолькам, але тут дадаецца арыгінальная псыхадэлічнасьць ("Солнце на чердаке", "Вертолеты"). Тэксты – вельмі якасныя, нестандартныя, але выклікаюць непрыемную алюзію на гэтак званы "питерский рок". І гэта, бадай, адзіная непрыемнасьць альбому. "Если хочешь знать" зьяўляецца кавэрам на песьню GREEN DAY, якую БЕЗЬ БІЛЕТА з пост-панку перарабілі на брыт-поп з фолькавымі ўплывамі а-ля BLUR. І яшчэ адна нечаканасьць альбому – сола на скрыпцы Ксені Мінчанка (вакалісткі, флейтысткі й скрыпачкі гурта) пад назвай "Всплеск" – яе ўласная кампазыцыя, якая нагадвае штосьці з Бэтховэна.

...Самі БЕЗЬ БІЛЕТА лічаць, што яны пакуль мала чаго дасягнулі, і гэта значыць, што ім ёсьць яшчэ куды разьвівацца. Пачакайма.

*P.S. Спадзяюся, хутка ўва многіх зьявіцца "транспарант канцэртовы", а даведацца, што гэта такое, можна толькі набыўшы касэту БЕЗЬ БІЛЕТА.*

■




***Вітаўт Мартыненка***

## "Zlote przeboje polskiej piosenki: lata 90"
## Pomaton/EMI, 2000

Што слухаюць беларускія студэнты сёньня акрамя рацыянальных супэрзорак замесу Supra-Bulba-Каўчэг-company? Мо, левыя дыскі "Backstreet Boys" ці "Eminem", якія звышапэратыўна дастаўляюць сюды тыражоўшчыкі з усходу й поўдню? Але хоць з сусьветнай рок-музыкай і папсой цяпер праблемаў няма, усё ж мне шкада сённяшніх мэляманаў: яны нават не падазраюць, што такое польскі альбо вэнгерскі рок, ня ведаюць супэрзорак, якія яшчэ ў недалёкіх 80-х лёгка скарылі сусьветны музычны Алімп. Згадайма хаця б фурор вэнгерскага "Neoton familia" на фэстывалі "Yamaha" ў Токіё ці салідныя кантракты польскае "Lady Pank" у ЗША. Я ўжо не кажу пра тое, што ў Нямеччыне абавязкова перавыдаваліся ўсе альбомы вэнгерскага гурта "Omega", польскага "Maanam"... Значыць, была цікавасьць ня толькі ў Вэнгрыі, ня толькі ў Польшчы. А што ж цяпер, няўжо ўсё зьнікла бясьсьледна?

Што да польскага року, дык варта пад'ехаць у Горадню ды пакорпацца ў тамтэйшых крамах, і вы апынецеся ў сапраўдным музычным раі. А трапіце ў саму Польшчу – дык там проста музычная нірвана... Праўда, для тых, у каго ёсьць грошы, бо калі ў тыя ж 80-я гады я са свайго заробку мог купіць 10-15 музычных альбомаў (тады на LP), дык цяпер – толькі 2-3. Што ж, у такім разе можна вярнуцца ў Горадню й разгрэбсьці польскі лявак або ўсё-ткі што-небудзь купіць зь фірмовага.

...Самым даступным і ёмістым апынуўся 4CD-зборнік гітоў польскага року 60-х, 70-х, 80-х і 90-х ад... знакамітага польскага бровара "Brok". Адмыслоўцы піва, зрэшты, толькі грошы далі, а выданьнем занялася славутая польская фірма "Pomaton", якая цяпер належыць міжнароднаму канцэрну "EMI".

Калі казаць пра спонсараў, дык яны зусім не прымушалі музыкаў пісаць песьні пра піва: проста даверыліся знаўцам музыкі, каб гіты былі сапраўды гітамі, сымбалямі сваёй эпохі. І, скажам, у залаты фонд 80-х трапіла толькі адная піўная *piosenka* – бліскучы клясычны блюз "Гэта толькі два піва" ад гурта "Dzem" (гэткая польская "Крама").

Гіганты польскага пост-панку "Maanam", якія захапілі ўсе гіт-парады Эўропы ў 80-х, засталіся сярод самых уплывовых гіт-мэйкераў і ў 90-х, але славутая рок-вакалістка Кора цяпер прываблівае не напружаным нэрвам свайга голасу, а пяшчотай ды мяккасьцю. Сацыяльная вастрыня тэкстаў таксама саступіла месца простай (але й банальнай) любоўнай лірыцы. У супэргіты 90-х "Maanam" прэзэнтаваў два творы ("Для таго жывеш на сьвеце" і "Папросту будзь"), якіх я не знайшоў у сваёй CD-калекцыі, хоць маю і славуты альбом "Дэрвіш і Анёл" (1991), і "залаты" дыск "Ружа" (1994), і скандальны "Ключ" (1998), і адусюль патроху сабраны канцэртнік "Maanamaania" (1993). Відаць, выпадкова абмінуты "Ложак" апынуўся самым гітовым.

Дарэчы, для фанатаў беларускага року магу дадаць, што "Дэрвіш і Анёл" запісваўся ў той жа Ольштынскай студыі Рышарда Шмідта, дзе й "Уліс" нарадзіў свае славутыя альбомы "Чужаніца" (1988) і "Краіна доўгай белай хмары" (1990).

Жыцьцяздольнасьць "Maanam" пацьвярджае й яшчэ адна рок-каралева 90-х Юстына Стэчкоўска, якая ўзяла ў свой альбом "Дзяўчына шамана" (1996) супэрзорны твор "Боскі Буэнас-Айрэс" ("Maanam", 1980). Праўда, у "Piosenki" ўвайшла ўласна загалоўная кампазыцыя зь "Дзяўчыны".

Ад 1982 году існуе чэнстахоўскі гурт "T.Love" – адзін з найбольш дзіўных і найбольш папулярных. Дзіва тут у тым, што музыкі ставяцца да року толькі як да хобі: часам запісваюцца, часам даюць канцэрты... А працуюць тыя філёлягі ды псыхолягі абы-дзе. І ўсё ж любы даведнік польскага року "ведае", што такое "T.Love". Дый што казаць, калі прадусаваў гэтых самадзейнікаў такі профі, як Робэрт Брылеўскі ("Brygada Kryzys"). У гіты 90-х трапіла "Пацаны ня плачуць". А гурт "Piersi" з "Maanam" зьвязвае скандал: калі ў 1988-м Кора часова засталася адна, юнакі дапамаглі ёй запісаць альбом "Bella puppa", а ганарар пайшоў налева. "Piersi" выжылі і – слухайце кампазыцыю "Цалуй мяне" з вакалам Паўла Кукіза. Жыве польскі пост-панк!

"Czarno-czarni" нават у назве сваёй парадыруюць польскі рок 60-х (калі былі "Блакітна-чорныя", "Чырвона-чорныя"), а што ўжо казаць пра іхні "Трубны твіст"? Такія ж рок-парадысты й "Formacja Niezywych Schabuff" (трэк "DaDaDa"), але гэтыя "сьцябаюць" ужо розных там палітычных дэмагогаў. Такія вось "Вольныя танцы" ў Польшчы.

■

# Страхуйся па–эўрапейску!

Вядома, моладзь любіць вандраваць. І гэта натуральна – хто ж ня любіць? Пабачыць новыя краіны, адпачыць, папрацаваць ці павучыцца... Мэты розныя, як і людзі, але перад кожным узьнікае шэраг складанасьцяў, зьвязаных зь перасячэньнем дзяржаўных межаў. Справа ў тым, што з большасьцю краінаў Беларусь ня мае дамоваў пра бязьвізавы ўезд. Таму вам давядзецца даведацца, што такое пячатка для шматразовага выезду за мяжу, віза, консульскі аддзел, сам консул і ... нарэшце, страхоўка. Вось менавіта пра яе мы зараз і пагаворым. Страхоўкі бываюць розныя. У дадзеным выпадку нас цікавіць мэдычная. Гэта тая самая страхоўка, якую вам прапануюць у турыстычных агенцтвах, амбасадах і г.д. Кошт яе вагаецца ў залежнасьці ад тэрміну дзеяньня ды іншых аспэктаў. Так, напрыклад, тыднёвая страхоўка на вандроўку па Эўропе абыдзецца вам прыкладна ў 5 даляраў ЗША, а па Амэрыцы – у цэлую дзясятку.

Аднак паколькі мы людзі маладыя, хочацца выдаткаваць як мага меней, а атрымаць... як мага болей, канечне. Гэта і ўлічвала Рада Эўропы, калі ўжо больш за 10 год таму падтрымала праект пад назваю Моладзевая Карта EURO<26. EURO<26 – эўрапейская моладзевая карта зьніжак. Аднак гэта яшчэ ня ўсё. Уладальнікі беларускай вэрсіі EURO<26 маюць гадавую мэдычную страхоўку на замежныя выезды па ўсім сьвеце (акрамя Польшчы, зь якой у Беларусі заключанае пагадненьне пра бясплатнае аказаньне першай мэдычнай дапамогі сваім грамадзянам).

Такім чынам, карта EURO<26 дазваляе вам ня думаць пра клопаты, зьвязаныя з атрыманьнем візы, застрахоўвае ад няшчасных здарэньняў за мяжой (аплочвае транспартныя й мэдычныя паслугі, кожны праведзены ў шпіталі дзень), дзейнічае пры вандроўках па *ўсім* сьвеце і, такім чынам, значна ашчаджае вашыя грошы. Заўважце, тэрмін дзеяньня страхоўкі – цэлы год, а кошт проста сьмешны, улічваючы, што карта EURO<26 дазваляе вам карыстацца яшчэ 250.000 разнастайнымі зьніжкамі ў Беларусі ды рэшце Эўропы (у т.л. дае магчымасьць купляць самыя танныя авіяквіткі ва ўсе краіны сьвету ўжо ў Менску). Усё гэта толькі таму, што мы з вамі – маладыя грамадзяне Эўропы. Не забудзьцеся, што шчасьлівым уладальнікам карты можаце быць і Вы, калі Вам меней за 26 год.

Дык наперад жа, да новых далягядаў з карткай ЭЎРА<26!!!





Што чуваць?








# ЦЯПЕР "CD" МОЖНА ЗАМОВІЦЬ ПРАЗ ПОШТУ!

## Каб падпісацца на "CD", трэба:

- запоўніць абанэмэнт (можна атрымаць у любым паштовым аддзяленьні ці ў рэдакцыі часопісу);
- паштовым пераводам пералічыць адпаведную суму на разьліковы рахунак рэдакцыі часопісу "Студэнцкая думка":

***Разьліковы рахунак: 3012210040010 Сталічнае аддзяленьне АКБ "БелБізнэсБанк", г.Менск, код 112.***

- запоўнены абанэмэнт разам з квітанцыяй аб паштовым пераводзе даслаць па пошце ў рэдакцыю: **Менск-30, 220030, а/с 90, рэдакцыі часопісу "Студэнцкая думка".**
- Не забывацца штомесяц вымаць з паштовай скрыні "CD".

## УМОВЫ:

- **Дашлі** запоўнены абанемэнт разам з квітанцыяй аб паштовым пераводзе **да 10-га любога месяца,** і атрымаеш CD ужо **ў наступным месяцы.**
- Падпісацца можна на адзін, тры, шэсьць месяцаў.
- Кошт падпіскі на 1 месяц – 240 рублёў.

# УНІКАЛЬНАЯ ПРАПАНОВА:

- Калі ты падпішасься сам, а таксама падпішаш 5 сваіх сяброў – зьніжка 50% (дзеля гэтага ў адной капэрце трэба даслаць 6 запоўненых абанэмэнтаў і адпаведную квітанцыю). Не забудзься пазначыць сваё імя. Краіна павінна ведаць сваіх герояў.

Цяпер на "CD" можна падпісацца **штомесяц!**

***АБАНЭМЭНТЫ Й КВІТАНЦЫІ ДАСЫЛАЙЦЕ НА АДРЭСУ:***

Менск - 30, 220030, а/с 90, рэдакцыі часопісу "Студэнцкая думка".